*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 28 ліпеня 1989 г. № 30 (3492) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


## На разгляд сесіі Вярхоўнага Савета БССР

Сёння ў Мінску пачынае сваю работу адзінаццатая сесія Вярхоўнага Савета Беларускай ССР адзінаццатага склікання. Поруч з іншымі пытаннямі на яе разгляд вынесена і пытанне аб Дзяржаўнай праграме па ліквідацыі ў рэспубліцы вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС на 1990—1995 гг. Праект гэтай праграмы быў распрацаваны Дзяржпланам БССР, Дзяржаграпромам БССР, Акадэміяй навук БССР, Белсаўпрофам, Міністэрствам аховы здароўя БССР, Мінфінам БССР, Дзяржбудам БССР, Мінжылкамунгасам БССР, Дзяржкампрацай БССР, Мінадукацыі БССР, Мінкультуры БССР, Мінбытам БССР, Беларускім штабам ГА, Мінгандлем БССР, Белкаапсаюзам, Дзяржкампрыроды БССР, Мінлясгасам БССР, Белгідраметам, Дзяржкампаліўгазам БССР, Беларусэнерга, Гомельскім і Магілёўскім аблвыканкомамі і адобраны Бюро ЦК Кампартыі Беларусі на пасяджэнні 21 ліпеня г. г.

## Выстаўка Іллі Глазунова

22 ліпеня ў Мінскім Палацы мастацтваў адкрылася выстаўка твораў народнага мастака СССР Іллі Глазунова. У экспазіцыі жывапіс і графіка розных гадоў. Безумоўна, найбольшую цікавасць гледачоў прыцягваюць «Містэрыя XX стагоддзя» і «Вечная Расія», дзе мастак спрабуе асэнсаваць складаную рэчаіснасць сучаснага свету, месца сваёй Радзімы ў сусветнай гісторыі.

Частка сродкаў, атрыманых ад дэманстрацыі выстаўкі, будзе пералічана ва Усесаюзны дзіцячы фонд імя У. І. Леніна.

2 жніўня ў памяшканні опернага тэатра адбудзецца творчая сустрэча грамадскасці Мінска з мастаком, асноўны збор з якой пойдзе на будаўніцтва помніка Францыску Скарыне.

НАШ КАР.

## Мемарыял у Свіслачы

На Гродзеншчыне ў гарадскім пасёлку Свіслач у 45-ю гадавіну вызвалення Свіслаччыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў адкрыўся мемарыял у памяць землякоў, што не вярнуліся з вайны. Мемарыяльны комплекс узведзены на ўскраіне пасёлка побач з шашою, што вядзе ў бок Беластока. Цэнтральная фігура вышынёю амаль адзінаццаць метраў — воін-асілак, які абапіраецца рукою на меч і ўглядаецца ўдалеч. Ля падножжа скульптуры — пліты з імёнамі загінуўшых на вайне жыхароў Свіслаччыны. Дапаўняе прасторавую кампазіцыю сімвалічная выява «піраміды» з аўтаматаў у атачэнні лаўровага вянка. Скульптура выканана з медзі ў тэхніцы выкалаткі.

Аўтары комплексу — скульптар П. Цомпель, архітэктары Ю. Казакоў і М. Карпюк — імкнуліся выявіць у сваім творы моц зямлі, што нарадзіла герояў. Воін-асілак — гэта абагульнены вобраз народа, які ў жорсткай барацьбе з ворагам адстаяў сваю Айчыну.

На мітынг, прысвечаны адкрыццю мемарыяла, прыехалі ветэраны, якія 45 гадоў назад вызвалялі Гродзеншчыну і Беласточчыну ад акупантаў, а таксама некалькі соцень жыхароў польскай Гайнаўкі — з гэтым горадам Свіслач падтрымлівае дружалюбныя сувязі.



Прамоўцы гаварылі на мітынгу аб братэрстве беларускага і польскага народаў, аб неабходнасці і надалей развіваць культурныя і гаспадарчыя сувязі пагранічных абласцей, Беларусі і Польшчы ўвогуле.

Свята працягвалася ў гарадскім парку, дзе была разгорнута выстаўка народных майстроў Свіслаччыны; на гарадскім стадыёне, дзе адбылося тэатралізаванае прадстаўленне, выступілі самадзейныя артысты з Воранава і з Гайнаўкі, прайшлі спартыўныя спаборніцтвы.

У Свіслачы шануюць народныя традыцыі і гісторыю. Нядаўна па старых фотаздымках былі адноўлены страчаныя элементы на помніку слаўным падзеям паўстання 1863 г. Ёсць у горадзе мемарыяльны знак у гонар К. Каліноўскага. Кіраўніцтва горада і раёна слушна лічыць, што гэтага знака недастаткова для ўшанавання памяці героя ў яго родных мясцінах, што патрэбен манументальны помнік вялікаму рэвалюцыянеру ў Свіслачы. Ці пад сілу такое невялікаму гораду? Калі меркаваць па толькі што адкрытым мемарыяле — так. На стварэнне «Асілка», акрамя выдаткаваных сродкаў з раённага бюджэта, грошы ахвяравалі ўсе гаспадаркі раёна і асобныя грамадзяне, мемарыял стаў сапраўды народнай справай.

Такой справай павінна стаць і будаўніцтва помніка вялікаму сыну Беларусі Кастусю Каліноўскаму.

П. ВАСІЛЕЎСКІ,
наш кар.

## ПАСЯДЖЭННЕ АРГКАМІТЭТА

Адбылося чарговае пасяджэнне рэспубліканскага аргкамітэта па правядзенні III Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці. Разгледжана работа Брэсцкага аргкамітэта па развіцці сямейных ансамбляў і правядзенні фестываляў сямейных самадзейных калектываў, Гомельскага і Мінскага абласных аргкамітэтаў па арганізацыі фестывальных мерапрыемстваў, якія маюць характар культурнага шэфства над дзіцячымі дамамі, школамі-інтэрнатамі, дамамі ветэранаў працы, шпіталямі ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны і воінаў-інтэрнацыяналістаў. З дакладамі выступілі начальнікі ўпраўленняў культуры аблвыканкомаў В. Клімчук, А. Майсеенка, В. Гедройц.

Адзначалася, што вялікая і цікавая работа, якая праводзіцца у рамках III Усесаюзнага фестывалю, сведчыць аб сур'ёзным падыходзе да праблем выхавання і арганізацыі вольнага часу. Але, нягледзячы на некаторае ажыўленне культурнага шэфства ўстаноў культуры Гомельскай і Мінскай абласцей, назіраецца шэраг істотных недахопаў і пралікаў у арганізацыі гэтай справы.

На пасяджэнні абмяркоўваліся фестывальныя мерапрыемствы творчых арганізацый рэспублікі, пытанні рэпертуарнага забеспячэння калектываў, асабліва агітбрыгад і агіттэатраў. Адзначана, што не хапае сцэнарыяў абрадаў і сучасных святаў. Аргкамітэт выказаў спадзяванне, што ў гэтай справе дапаможа рэспубліканскі конкурс сцэнарыяў, які праводзіцца ў рамках мерапрыемстваў III Усесаюзнага фестывалю.

Вёў пасяджэнне старшыня Белсаўпрофа У. І. Ганчарык.

НАШ КАР.

## Паважаныя чытачы!

Тыраж «ЛіМа» за апошні час значна вырас. Што, безумоўна, сведчыць пра цікавасць да газеты. Нагадваем, што зараз ідзе падпіска на 1990 год. Вы можаце аформіць яе ў любым аддзяленні сувязі і «Саюздруку». Звяртаем увагу на тую акалічнасць, што ў розніцу газета паступае ў абмежаванай колькасці. Асабліва ў раённых цэнтрах і гарадскіх пасёлках. Самы лепшы спосаб рэгулярна атрымоўваць і чытаць штотыднёвік «Літаратура і мастацтва» — гэта падпісацца на яго.

У рэдакцыйным партфелі — нямала цікавых і самых разнастайных матэрыялаў на тэму дня і на гістарычную тэму. У бліжэйшых нумарах мы мяркуем надрукаваць артыкул Л. Лыча «Назвы бацькаўшчыны: вярнуць страчанае», «Запіскі аб радыяцыі» Б. САЧАНКІ, артыкул «Сіндром паўгаспадара» журналіста С. ГРАМЫХОВА аб механізме тармажэння ў эканоміцы, нарыс «Вечная мерзлата» А. МАЙСЕНІ пра лёс былога вязня сталінскіх лагераў, «Выбарчы дзённік» І. ЧЫГРЫНАВА, гутарку з З. ПАЗНЯКОМ, фельетон «Урадавы канцэрт» Д. ПАДБЯРЭЗСКАГА; іншыя надзённыя публікацыі і агляды ў рубрыках «Перабудова і мы», «Перабудова і міжнацыянальныя адносіны», «Беларускай мове — статус дзяржаўнай».

З матэрыялаў гісторыка-даследчыцкага плана — артыкулы і эсэ А. ГРЫЦКЕВІЧА, У. ДАМАШЭВІЧА, Л. ДРАНЬКО-МАЙСЮКА, М. ІВАНОВА, І. ЛАСКОВА, гутарка з польскім гісторыкам А. БЕРГМАН.

Па аддзелах мастацтва — артыкул В. Шматава (сталінізм і шляхі развіцця беларускага выяўленчага мастацтва), агляд па выніках тэатральнага сезона, гутаркі з народнай артысткай СССР С. ДАНІЛЮК і галоўным мастаком Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР Э. ГЕЙДЗЕБРЭХТАМ.

Са спадчыны — творы В. ЛАСТОЎСКАГА, Я. ДРАЗДОВІЧА, Л. КАЛЮГІ, А. МІЛЮЦЯ.

Друкуем раздзел з новай аповесці І. ШАМЯКІНА, апавяданні В. АДАМЧЫКА, І. ЖАРНАСЕК, М. ШАЙБАКА, вершы Н. ГІЛЕВІЧА, М. АРОЧКІ, Т. БОНДАР, В. ЖУКОВІЧА, М. КУСЯНКОВА, М. КУПРЭЕВА, Я. ПФЛЯУБАУМ, нізку «Гомельшчына паэтычная» і творы членаў універсітэцкага літаб'яднання «Узлёт».

**Янка Купала ў «Кургане» пісаў: «Паміж пустак, балот...» Ці не пра наша Краснаполле гэта, ці не пра наш паўднёва-ўсходні куточак рэспублікі — бедны, занядбаны? За дзесяцігоддзі тут сабралася процьма праблем гаспадарчага, культурнага жыцця; Чарнобыльскі выбух агаліў і шматразова пасіліў іх. Кірыла Пракопавіч Арлоўскі, аддаючы даніну ўбоству і жабрацтву тутэйшага краю, чвэртку ці болей стагоддзя назад прапаноўваў краснапольскія землі засеяць *лесам, а людзей, узнагародзіўшы* тольхі за тое, што яны жылі там,, выселіць. Дарэчы, на поўнач ад Краснаполля, у наваколлі Маластоўкі — малой стаянкі Пятра I, сцвярджаюць мясцовыя гісторыкі — расце лес, пасаджаны на пясках у гады Вялікай Айчыннай па загадзе гітлераўскага чыноўніка, надзеленага загадзя і неабачліва правамі гаспадара...**

**Тут, на Краснаполлі, знаходзіцца калгас імя Энгельса, у якім ужо не адзін год старшынюю. Выкажу свой погляд на Чарнобыльскія падзеі, не прэтэндуючы на ісціну ў апошняй інстанцыі. Некаму ён можа падацца аднабаковым, празмерна эмацыянальным. Няхай даруе мне тое чытацкі навуковы і пісьменніцкі люд. Мне не верыцца, што мінула тры гады з тае ночы, і што так мала зроблена за гэты час. Непазбежна паўтару нешта са сказанага да мяне: паўтару свядома, бо многае са сказанага так і павісла ў паветры, чакаючы свайго часу.**

**Мікалай ВАРАВА,**
**старшыня калгаса імя Энгельса Краснапольскага раёна**

# БОЛЬ МАЁЙ ЗЯМЛІ

Дагэтуль многія спрабуюць знайсці адказ на пытанне: хто мае рацыю? А. Адамовіч з яго змрочным прагнозам радыяцыйнага СНІДу і дактары-спецыялісты, што пакрысе пакідаюць раённую бальніцу ў Краснаполлі, ці тытулаваныя акадэмікі, высокія кіраўнікі, з іх канцэпцыямі і «мерапрыемствамі»? І ў 1987, і ў 1988, і ў 1989 гадах яны ўпарта, паўтараючы або свае, або чужыя словыдумкі, пераконвалі людзей у перапоўненых залах раённых дамоў культуры Краснаполля і Чачэрска, Нароўлі і яшчэ бог ведае якіх мястэчкаў у бяспецы радыяцыйнай сітуацыі для здаровага жыцця. Біяфізік К. Гардзееў аптымістычна прадказваў, што *праз год* у Краснаполлі ніякага ліха не застанецца, нават абяцаў з унукамі на лета сюды прыехаць, але... *Сказанае ім паўтарыў праз* два гады перад краснапальчанамі В. Бур'як, былы галоўны санітарны ўрач рэспублікі. Ацэнкі *апошніх месяцаў так* або інакш пачалі схіляцца да красамоўных лічбаў, фактаў аб пагаршэнні здароўя людзей. Праўда, і тут робіцца агаворка: «Захворванні растуць не толькі ў вас, усюды».

Хацелася б спадзявацца, што выказванні В. Бур'яка акадэміка Л. Ільіна, віцэ-прэзідэнта АН БССР А. Сцепаненкі на пасяджэнні бюро Магілёўскага АК КПБ 15 мая 1989 года ў сукупнасці сапраўды паклалі канец замоўчванню і няведанню! Бо за тры гады можна было б навучыцца культуры спрэчак, уменню высnаваць погляды і навучыцца паважаць не толькі міністэрскі погляд з Масквы, але прыслухоўвацца і да высноў беларускіх вучоных. Гаворка ж ідзе не пра дровы, а пра жывых людзей, пра нашчадкаў. У дачыненні мільёнаў людзей і тысяч сем'яў нават долі працэнта *паталагічных адхіленняў*, якія допускаюцца, напрыклад, у генетыцы,— гэта празмерна вялікая цана. Ахвярай «дапушчэння» можа стаць кожны.

У нас выхоўваецца раўнадушнасць. Ей надаецца статус закона. Ужо сёння яна апраўдвае недасканаласць у нашым жыцці ў вачах нашых дзяцей.

Нам бракуе культуры. Учэпіста, кіпцюрамі пранізваюць адносіны між людзьмі рэшткі сталінізму, адгалоскі лысенкаўшчыны — катэгорый ідэалагічных, але і матэрыяльных.

Каб не была наша будучыня падобнай на наша сёння.

Ніхто не супраць развіцця энергетыкі, але ўсе за разумнае яе развіццё, за поўнае ўвасабленне інтэлектуальнай сілы грамадства, прызначанай абараняць яго. І не заўтра, не ў будучым, а сёння, незалежна ад створаных кімсьці жаданых умоў.

Мусіць, ёсць сэнс на годдругі, а то і больш спыніць будаўніцтва новых АЭС, высечку лясоў, асушэнне зямель і агледзецца: што натварылі? Як выправіць? І некалі прысвоенае права вырашаць лёс людзей, цэлых рэгіёнаў і ўсяго жывога ў іх вярнуць тым, хто жыве на зямлі: *голас народа — голас божы*.

Ці станем мы сведкамі новага Чарнобыля? Не ведаю. Адмахвацца ад перасцярог на гэты конт нельга. У імя жыцця патрэбен кантроль, кантроль і яшчэ раз кантроль за кожным крокам на кожнай АЭС у спалучэнні з новымі, бяспечнейшымі тэхналогіямі. Тут непазбежны матэрыяльныя выдаткі. Але досыць з нас трагедый, людскіх ахвяр. Апошняе не апраўдаць ні перабудовай, ні прагрэсам. Абавязковы ўдзел у кантролі, а не толькі эпізадычныя наезды гасцей з МАГАТЭ, міжнародных арганізацый, скарыстанне *вопыту* і дасягненняў усіх інтэлектуальна развітых краін, дзе спажываецца ядзерная энергія, а, магчыма, і іх *непасрэдны* ўдзел у будаўніцтве і эксплуатацыі АЭС. Чаму б сёння не стварыць інстытут пры міжнародных арганізацыях, пад іх кантролем, які б непасрэдна займаўся і даследчай, і праектнай дзейнасцю ў развіцці ядзернай энергетыкі, у прыватнасці, выкарыстання ядзернай энергіі? Гэта не трызненне і не бязглуздзіца, а рэальнасць, што непасрэдна вынікае з канцэпцыі новага мыслення для нашай краіны і ўсяго свету. І калі ён, свет, хоча ацалець, здужаўшы бядоты, яму проста неабходна і пазычаць, і дзяліцца вопытам, ведамі.

Чаму б ужо зараз не пашырыць правы і абавязкі Дзяржкампрыроды, не стварыць Камісію па ліквідацыі вынікаў Чарнобыля пры Савеце Міністраў як самастойны орган, надаўшы ёй надзвычайныя паўнамоцтвы? Ці зразумеем, нарэшце, што ўжо няма і не можа быць умоў трыццатых — першай паловы шасцідзесятых гадоў, калі пакаленні людзей нараджаліся і паміралі ў векавечных эндэмічных зонах, калі не думалі і не гадалі пра прыродную радыеактыўнасць? Чарнобыль па-свойму вызначыў месца навукі, лёс людзей на доўгія гады наперад, нечакана, але заканамерна далучыўшы да ўжо існуючых «фонаў», смогаў і г. д. свой важкі дадатак.

Чаму б, *калі ствараецца* сапраўды справядлівая — сацыяльна, палітычна, эканамічна і духоўна — дзяржава, не стварыць сацыялістычны прававы механізм абароны грамадскай думкі, які б утаймоўваў гаспадаранне міністэрстваў і тых, хто за імі?

І больш даверу свайму народу: цяжар адказнасці за недасканалыя і паспешлівыя рашэнні выносіць ён, народ. Аб магчымых выніках Чарнобыля даволі доўга маўчалі, абмяжоўваліся паўпраўдай або проста хлуснёй. Тут неадпаведнасць лозунгаў — жыццю, створанай сістэмы, якая пакуль жыве, — спадзяваннем, памкненнем людзей.

Вяртаючыся да Краснапольшчыны, хачу засведчыць: узровень аховы людзей ад радыяцыі нізкі, абмяжоўваецца сцвярджэннем відавочнага — колькасць захворванняў павялічваецца. Медыкі, бальніца працуюць гэтак жа, як і дзесяцігоддзі назад. Прымяніць нешта новае нельга: матэрыяльная база старая, сучаснага абсталявання няма, не хапае спецыялістаў. Асаблівасць медыцынскага абслугоўвання — вахтавы метад. Наязджаюць спецыялісты з Магілёва, Мінска, Масквы. Створаны рэгістр — сістэма ўліку краснапальчан, якая, на думку яго творцаў, павінна несці звесткі пра здароўе чалавека, дзе б ён ні знаходзіўся. З раёна выехалі тысячы людзей, звесткі пра іх пакуль ляжаць у Краснаполлі, нідзе і нікому не патрэбныя. Пачасціліся сардэчна-сасудзістыя захворванні, органаў дыхання, анкалагічныя, косцемышцавай сістэмы. Дактары-краснапальчане, напрыклад, падлічылі, што анкалагічныя захворванні (рак) штогод узрастаюць на 5 працэнтаў. Выказалі свае трывогі прадстаўнічай камісіі з Масквы. Камісія, спасылаючыся на тэарэтычныя разлікі, статыстыку, абвінаваціла краснапальчан у нежаданні і няздольнасці працаваць, у стварэнні хваравітага і трывожнага настрою людзей. Камісіі прызнаюць, што *анамаліі* ёсць, але прычыны шукаюць у хранічных захворваннях нырак, зубоў, кепскім харчаванні і г. д. «На сегодня нет никаких оснований связывать заболевания с радиацией. Заболеваемость имеет те же тенденции, что и ранее, до Чернобыля... Уверяю, что это не связано с радиоактивным загрязнением», — пераконваў В. Бур'як краснапальчан 11 лютага г. г. «Отмечены анемия, напряженность имунной системы у детей, — прызнавала на пасяджэнні бюро Магілёўскага абкома партыі 15 мая прафесар А. Легінская і паведаміла: — Причины напряженности иммунитета — в раннем прекращении вскармливания грудью...» «Не видим у вас частоты врожденных патологий, — упэўнена сцвярджаў у Чачэрску акадэмік Л. Ільін. — Есть группа политиканов, которая из своих шкурных интересов обвиняет медицину...»

Магілёўскі абком партыі, вызначыўшы сваю пазіцыю, вырашае перасяліць вёскі ў іншыя раёны вобласці, абмяжоўвае і спыняе сельскагаспадарчую дзейнасць на забруджанай тэрыторыі.

Міністэрства аховы здароўя СССР і БССР адстойваюць канцэпцыю, згодна якой рысай жыцця становіцца ўзровень радыяцыі ў 35 бэр. Нават там, дзе не прыгодна да ўжывання малако, мяса, ягады...

І ніхто з міністэрства або іншых устаноў, дзе даўно ідзе маштабнае скарачэнне, не едзе ні ў Краснаполле, ні ў Брагін жыць і працаваць, на справе правяраць свае канцэпцыі. У мясцовых школах, калгасах, бальніцах безліч вакансій, і ніхто не накіроўвае сюды выпускнікоў-спецыялістаў.

Дзеці Краснапольшчыны жывуць адным жыццём са сваімі бацькамі.

Пры лячэнні і вызначэнні дыягназу колькасць бэр, набраных людзьмі, не ўлічваецца, бо невядома, як іх улічваць, да чаго прыстасаваць і як абернуцца, скажам, пры ангіне, у кожнага чалавека цэзій, стронцый, плутоній, цэрый, цырконій, радый, радон, рутэній і яшчэ бог ведае якая немач. Кожны можа праверыць сябе з дапамогай лічыльніка імпульсаў, але мала хто разбярэцца ў лічбах, якія высвечваюцца на экранчыку.

Медыкаменты тыя ж, што і да аварыі. Ці адпавядаюць яны новым умовам — не ведаю. Але мяркую, што частка лекаў садзейнічае накапленню ізатопаў, павялічвае перыяд... паўвывядзення, але не ачышчэння арганізма.

Сродкаў, што паніжалі б накапленне *радыенуклідаў і папярэджвалі* шкоду ад іх, — няма. (Апроч антыструміна 1954 года нараджэння ды солі з ёдам). *Уся надзея на «чыстыя»* прадукты харчавання, на «чыстыя» кармы. На волю лёсу.

Чаго тут больш? Павярхоўнасці ўяўленняў з-за непадрыхтаванасці да жыцця ў радыеактыўных умовах, бязмежнай даверлівасці канцэпцыям і дэзактывацыі, якія не даюць жаданага выніку, або незразумелага, не пачутага пратэсту? Ці звычайнай, акрэсленай інструкцыяй, абыякавасці службоўцаў: адгэтуль і датуль? Хто з нас, жывых, ведае, ці не існуе там, у кабінетах, строгая папера з наказам: ведай, што гаворыш? І ці не з'явяцца некалі новыя ахвяры, пра што папярэджваюць асобныя вучоныя, з высновамі якіх Міністэрства аховы здароўя лічыцца не хоча? «В крупных цифрах отклонений мы не видим», — ацэньваў становішча *Л. Ільін 22 чэрвеня*.

Усё адносна ў свеце, ці не так? У канцы красавіка і бадай што ўвесь май 1986 г. дзьмуў моцны паўночна-ўсходні вецер; зямля на гародах, асадак у вёдрах, куды сцякала вада са стрэх пад час дажджу, мелі чырвоны колер. У шэрагу мясцін людзі заўважылі незвычайнае: пасля высыхання лужын заставаўся зялёна-жоўты з белым налёт. Дазіметрыст калгаса — пасада, народжаная красавіком 1986-га — апасліва падносіў да яго дазіметр, запісваў паказанні, мяркуючы, што папраўдзе бачыць «радыяцыю». Дасведчаныя людзі тлумачылі: то след сродкаў, скарыстаных для асаджэння радыеактыўных воблакаў. Міністр Луконін сцвярджаў: такога не было. Але чым растлумачыць, што землі Краснапольшчыны вялікімі, па некалькі калгасаў, саўгасаў, плямамі ў адну раніцу займелі 20 і больш мілірэнтген у гадзіну? І на тых землях сёння і 100 і 300 і шмат больш кюры на квадратны кіламетр? Чаму воблакі раптам «расчыніліся», калі меркаваць па напрамку ветру, не над Гомелем, скажам, а найбольш тут, у глыбінцы, стрываўшы пакорліва двухсоткіламетровы шлях ад рэактара? *Далей жа, у Смаленшчыне*, напрыклад, страт панеслі менш. На палі і вёскі, на галовы людзей падалі радыеактыўныя рэчывы, выклікаючы ў іх галаўны боль, санлівасць, смагу, пякучасць, бы крапівою шмарганула, ля вуснаў...

Як назваць гэта? Як верыць усім, хто супакойвае? Ці палегчала ад адказу міністра, які мала каго пераканаў у свавольстве чарнобыльскіх воблакаў?

Усё адносна.

Забеспячэнне «чыстымі» прадуктамі — па нормах, талонах. Да чэрвеня 1989 года вёскі падзялялі на «чыстыя» і «брудныя». Апошніх забяспечвалі трохі лепш: выдаткоўвалася на месяц «на душу» 2—3 слоікі тушонкі, дзіцячага харчавання перападала, трохі і зрэдку—грэцкіх круп. Больш завозілася з Крычаўскага мясакамбіната (гэта за 70 км ад Краснаполля) ялавічыны, свініны. Але няшмат, роўна столькі, каб разгавецца. Часцей на сталы селяніна трапляў безгаловы мінтай. Бульба, гародніна — уласныя, садавіна — тым больш. Без нормаў. Ягады, грыбы збіралі таксама. Нямала малака, яшчэ больш мяса, яек спажывалася са свайго падворка: у магазіне, працуючы на зямлі, асабліва не накупляешся.

Якую долю ў рацыёне краснапальчаніна займалі і займаюць «чыстыя» прадукты, якіх, як і ўсюды, не хапае? Цэны на якія досыць высокія і якія няпроста суаднесці з даходамі пенсіянера: механізатара, палявода?

Ці справядліва наракаць на *людзей, што яны не прытрымліваюцца* рэкамендацый, калі ў вёскі, асабліва аддаленыя, малочныя прадукты завозяцца *рэдка, калі надоўга зачыняюцца* магазіны, школьныя сталоўкі, чакаючы свайго вахтавіка? Спатрэбілася тры гады, каб трохі *палепшылася* забеспячэнне, каб скасавалі абразлівы падзел на «чыстыя» і «брудныя». Ці ж у Магілёўскім аблспажыўсаюзе, Белкаапсаюзе за дзвярыма з шыльдамі не было жывых людзей?

Бог няроўна дзеліць. Неаднолькава забруджаны землі. Дзе больш — урадам вызначана выплачваць 20, 25 працэнтаў надбавак (22—28 рублёў у месяц); дзе зусім *шмат* — выплачваецца яшчэ 30 рублёў на члена сям'і. Дзе мала — даплат няма. Але як разумець гэта *«мала»*?

«Чыстая» ферма спажывае кармы з «бруднай», што прылягае да фермы, зоны, тэхніка не *лічыцца з кюры і аднолькава* ўздымае і «чысты» і «брудны» пыл. Паветра адно на ўсіх, вецер таксама. Вёскі нярэдка стаяць *адна пры другой*, блізенька. Пісалася нямала лісьмаў у розныя інстанцыі, было нямала спрэчак і крыўды ў людзей. Рэдкія адказы на афіцыйных бланках адказамі можна назваць умоўна. Зрэшты, як і надрукаваныя ў першы раз газетамі карты забруджання рэспублікі. Яны адлюстроўвалі слабасць матэрыяльнай базы навукі. Маючы на ўвазе збег акалічнасцяў, Савет РАПА ў сакавіку 1989 г. вырашыў выплачваць надбаўкі ва ўсіх калгасах, саўгасах з уласных грошай. Дзяржаграпром БССР замест падтрымкі і дапамогі настойліва, вуснамі намесніка старшыні Ф. Мірачыцкага патрабаваў адмяніць такое рашэнне.

«Навошта нам такая камісія і такі ўрад, які не абараняе інтарэсы людзей?!» — казаў пры *выступленні на бюро* Магілёўскага абкома партыі старшыня Быхаўскага райвыканкома Ц. Салановіч, не на словах, а на справе зведаўшы ўласную адказнасць і асабістае бяссілле.

Лічыльнік імпульсаў, завезены з-за мяжы ў раёны, выяўляе досыць супярэчлівае становішча ў вёсках усіх пяці зон забруджання. Апошнія матэрыялы друку вывелі свядомасць людзей са здранцвення, *прымусілі* думаць і пачынаць дзейнічаць.

(Працяг на стар. 13).

# Анкета «ЛіМа»: слова паэтам

**У нумарах штотыднёвіка за 30 чэрвеня і 7 ліпеня нашы чытачы маглі пазнаёміцца з адказамі празаікаў на лімаўскую анкету. Сёння мы даём слова паэтам, прапануючы ім адказаць на наступныя пытанні.**

**Выраз «ісці ў нагу з часам», як вядома, даволі часта ўжываецца ў дачыненні да літаратуры і, у прыватнасці, да паэзіі. Як Вы разумееце гэты выраз? Як Вы думаеце, ці ёсць у нас паэзія «чыстай красы»? Ваша стаўленне да яе? Хацелася б яшчэ ведаць, што жывіць Ваша натхненне і што перашкаджае яму?**

**Ніна МАЦЯШ**

## Чалавек—выява часу

Не думаю, што «ісці ў нагу з часам» азначае абавязковае адлюстраванне надзённых праблем грамадства на пэўным этапе яго развіцця. Чалавек сам па сабе—праява, выява Часу ў яго духоўнай іпастасі. Наколькі ж пранікліва і арыгінальна мастак даследуе дух чалавека, настолькі і каштоўнае яго мастацтва—незалежна ад віду творчасці. У гэтым сэнсе філасофская, алегарычная паэзія Алеся Разанава бачыцца мне куды больш сугучнай часу, чым шмат якія паэтычна-палітычныя водгукі на патрэбу дня.



Магчыма, я кепска ведаю сучасную беларускую паэзію, але, мне здаецца, паэзіі «чыстай красы» ў нас няма. Альбо я не разумею гэтага азначэння. Што такое «чыстая краса»? Ілюстрацыйна-пейзажныя замалёўкі? Такіх вершаў багата, але калі яны не здольныя ўзрушваць, то якая ж гэта паэзія? Любоўная лірыка? Але нават паэты перасталі бачыць у жанчыне «гений чистой красоты», што, зрэшты, і не дзіўна ў ганебных умовах нашага побыту: не да нябеснага захаплення, дай бог наладзіць хоць больш менш прымальныя чалавечыя адносіны... Дабрата, міласэрнасць, любоў, самаахвярнасць у імя любові... Апошняе арганічна ўласціва лірычнай гераіні хіба што адной Соф'і Шах.

Натхненню замінае душэўная перанатома. Вымушаная трата сіл, нервовай энергіі на адстойванне натуральнага права чалавека на індывідуальную незалежнасць у думках і пачуццях і на цывілізаваную павагу да іх. Чадная атмасфера пастаяннага прыніжэння, спекулятыўнага ахайвання нацыянальнай інтэлігенцыі, чаго не назіралася нават у гады так званага застою, наводзіць на самы сумны роздум аб «лішніх» людзях у нашым грамадстве, аб марнасці ўласнай творчасці і самога жыцця. Вось і маўчыцца...

**Святлана ЯЎСЕЕВА**

## «...Мечта мне моя дорога»



Мне дзесяць гадоў. Часы другой сусветнай. Казахстанскі стэп ля ваколіцы глінабітнага гарадка. Каменная зямля разрыта вучэбнымі акопамі, парэзана траншэямі, прабіта глыбокімі катлаванамі. Курсанты, што вучыліся тут, даўно на фронце, многіх ужо і на свеце няма. А выкапаныя імі ямы прыдаліся: сюды залатары, як іх называлі, выварочвалі па начах свае бочкі. Справа даўнейшая, і для тутэйшых людзей агідная скарынка пад тоўстым пылам настолькі звыклая, што амаль незаўважная.

Па загаду прыёмнай маці пасу нашых коз і чытаю кніжкі. Да гэтага часу я ўжо ведала на памяць любімага Лермантава і шмат што з Пушкіна. Мне было дзе даставаць кнігі: у нашым абласным цэнтры дажывалі свой век нямала ссыльных і тых, якія атабарыліся тут бадай ці не з першых дзён рэвалюцыі. У іхніх прыватных бібліятэках сустракаліся выданні яшчэ з літарай «яць».

Аднойчы, пакутуючы ад жнівеньскай гарачыні, чытала Бальмонта:

**Я в застенке. И пытка долга<br>Но мечта мне моя дорога.<br>В палаче я не вижу врага.<br>Он ужасен, он странен, как сон,<br>Он упорством моим потрясен.**

І было ўсё зразумела: «застенок»—гэта абмежаваная прастора паміж ямамі; «пытка»—пасляабедзенны сквар; сама я ўпарта і заўсёды супраціўлялася тут сонечнаму ўдару. А «мечта»—узвышаная радасць, якую дораць вершы.

Ды што гэта?!

Жахлівы енк казляняці і бляянне ўстрывожаных коз.

Яма была глыбокая, і я гэта ведала. Ды казлянятка тапілася і тут ужо было не да разваг.

Як я выхапіла казлянятка, як выпхнула яго і сябе з багны—не памятаю зусім... Ды памятаю, спачатку быў пякучы сорам—брудная ж якая!—а потым пачала стукаць зубамі ды калаціцца ўсім целам...

А гэта ўжо ўспаміны першага пасляваеннага года.

Мне 13—14 гадоў. Позняя восень. Далёка ад хаты баваўнавае поле. Я ў мотавым фартуху. Ды ці многа баваўны можа назбіраць дзяўчынка, якая адчувае сябе чужаніцай і нікому непатрэбнай тут? Хутчэй бы сонца зайшло. І падганяючы яго, мармычу:

**Будь же тучкой бесполезной,<br>Как она, лови закат.**

І сонца нарэшце заходзіць, а затым ноч на таку глінабітнага барака, сон на нейкай дзяружцы, без коўдры, у сырой ватоўцы.

Ды я ўжо ведала: вершы—краіна ідэалу, дзе як сказаў А. Фет, «можно задышать лучшею жизнью».

Я атрымала пашпарт, паступіла ў інстытут, і доўгі час тых кніг, якія прыносілі мне радасць у дзяцінстве і ўмацоўвалі першыя парасткі мужнасці, нідзе не сустракала.

Эстэты, касмапаліты, гнілыя інтэлігенты—я даўно ўжо прывычаілася да такіх мянушак, як некалі да тых «залатых» ям ваеннага часу.

Я ведаю пра свой час так многа, і так пэўна і дакладна, быццам гэта—зараз. А «зараз» неаддзельна ад чалавека. Так і атрымліваецца, што я неаддзельная ад свайго часу і таму заўсёды іду ў нагу з ім.

**Смерть и время царят на земле,—<br>Ты владыками их не зови;<br>Всё, кружась, исчезает во мгле.<br>Неподвижно лишь солнце Любви.**

Гэты слупок з Уладзіміра Салаўёва я спявала сама сабе ў самым сваім пачатку, калі яшчэ нічога не ведала пра адносіны да прыгожага А. Фета і пра повязь душэўных станаў чалавека з касмічнымі таямніцамі, і нічога пра каханне, разлітае ў свеце. Ды разумела: ад смерці схавацца нельга, і прадчувала—немагчыма аднаму пераадолець бездухоўнасць і падступніцтва, гвалт, што нішчыць асобу. Аднак сапраўдныя вершы лечаць, падтрымліваюць жыццё духа ў недагледжаным, заезджаным хваробамі і жабрацтвам целе.

Чыстая прыгажосць! Яна не лунала, адарваная ад зямнога. Яна заўсёды мела праграму, а праграма—гэта ўжо стан напагатове да дзеяння, калі не сама барацьба.

Супраць чаго?

Супраць пошласці, супраць азлобленай банальнасці абывацельскіх меркаванняў, супраць самазадаволенай і неўсведамляючай сябе неадукаванасці.

Чыстая прыгажосць... Дасюль надта ж мала ведаю пра гэта, але магу толькі пакутаваць ад сваёй недасведчанасці, ды не фарсіць ёю. І пераадольваючы правалы сваёй адукацыі, ведаю: мае дзяцінства ўва мне не залячыць. Гэта іншыя паэты, асабліва маладыя, могуць па-свойму прадоўжыць перарваную праграму ад коскі да свайго шматкроп'я. А твар, які павярнуўся ў гады, калі ўсё прыгожае ў чалавеку было завашыўлена, прыніжана хваробамі і болем, можа адыходзіць толькі ў лепшае жыццё вершаў, як ішлі туды Кальцоў і Нікіцін, Ясенін і Рубцоў.

Душа мая—натхненне вершаў маіх! Ці ж мы не прызвычаіліся амаль што з самага маленства, што з нас блюзнерацць тыя, у каго заўсёды ўсё добра, якія аднолькавыя нават у думках сваіх. Блюзнерацць з нашых думак і адчуванняў, знешнасці і стылю жыцця...

Мы не б'ём лынды, нават калі і здаецца, што мы адпачываем.

Творчасць—гэта заўсёды. І тут я амаль не бачу перашкод. Хіба толькі адно—Любоў—ярмо Любові.

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

## Хада ў кожнага свая

Выраз «ісці ў нагу з часам» у дачыненні да паэзіі лічыў і лічу вульгарным, больш таго—абсурдным штампам, які сябе цалкам скампраметаваў.

Да таго ж «ісці ў нагу» гэта значыць ісці так, як ідуць усе, а паэт цікавы толькі ў тым выпадку, калі ў яго ёсць свая хада. Гэта—аксіёма. На жаль, нас дужа доўга вучылі хадзіць строем, спяваць хорам. Ці не таму тое, што раней хорам услаўлялася, сёння хорам развенчваецца? Ці не таму так багата вершаванай прадукцыі на старонках нашай перыёдыкі хутчэй з'яўляецца фактам калектыўнага прасвятлення, чым паэзіі?

Гледзячы што ўкладваць у паняцце «чыстай красы». Калі маецца на ўвазе прынцып «мастацтва дзеля мастацтва», дык ён доўгі час трактаваўся вульгарна—з чыста сацыялагічных пазіцый. І ў выніку Цютчаў паводле школьных падручнікаў хадзіў (а можа, і ходзіць) у апалагетах «чистого искусства». Вечныя пытанні (жыццё і смерць, каханне і г. д.) заўсёды былі і будуць аб'ектам паэзіі. Урэшце гэта і складае прыроду праўдзівай лірыкі, а яна, як вядома, стварае і развівае характар, непасрэдна звязаны з унутраным светам і духоўным жыццём аўтара. Так што ў любым выпадку мы маем справу з **Чалавекам.**

Творчасць значных паэтаў цяжка ўпісаць у нейкую пэўную схему (крытыка любіць гэта рабіць), бо яна звычайна шырэй прыдуманых схем і лёгка разбурае іх. Прыклад таму наш Максім Багдановіч, той жа Цютчаў.

Натхненне—гэта загадка. І гэтае пытанне лепш было б адрасаваць вялікім, якія і сталі



вялікімі, спазнаўшы творчае азарэнне.

Я не належу да прыхільнікаў прынцыпу «ні дня без радка» і адношу яго да таго ж разраду што і «ў нагу з часам», бо глыбока перакананы, што верш абавязкова павінен быць забяспечаны **эмацыянальна.** Ці не таму геніі згасалі без пары?

## КОЛАСА СЛЫННАЕ СЛОВА

*Шмат жыве на нашай зямлі народных самародкаў. Мы пісалі пра самадзейных мастакоў і разбяроў па дрэве, ганчароў і саломапляцельшчыкаў, ткачых і вышывальшчыц. А народныя чытальнікі? Дзіўна, але яны чамусьці рэдка трапляюць у сіла журналісцкай увагі. А шкада. Гэта таксама людзі адметныя, неардынарныя. Адзін з іх — Аляксандр Аляксандравіч Шырко з вёскі Чурылава Уздзенскага раёна. Дакументальны фільм з яго ўдзелам, дзе ён чытаў паэму «Курган» Я. Купалы, абышоў многія краіны свету. Рэспубліканскае тэлебачанне прысвяціла чытальніку цэлую перадачу, пасля якой на студыю прыйшло шмат удзячных пісьмаў ад гледачоў.*

*Пра некаторыя эпізоды з жыцця чытальніка расказвае яго сын, журналіст В. Шырко.*

**Зусім нядаўна было. Патэлефанаваў мне супрацоўнік музея Якуба Коласа Іван Курбека:**

**— Заўтра ў музеі адбудуцца коласаўскія чытанні, — сказаў ён. — Ці мог бы прыехаць твой бацька? Даніла Канстанцінавіч, сын Якуба Коласа, прасіў, хоча пазнаёміцца з ім.**

**Даніла Канстанцінавіч спадабаўся бацьку. Яны доўга гаварылі, хадзілі па залах музея. Бацька разглядваў экспанаты, затрымліваючыся ля асабістых рэчаў Коласа. Як і кожнаму вяскоўцу, яму было надзвычай цікава даведацца, як апранаўся народны паэт, у колькі ўставаў, што еў. Сын паэта тлумачыў. Ён бачыў майго бацьку па тэлебачанні, калі той чытаў «Батрака». Вельмі, казаў, спадабалася. Вось і сёння ў музей з хвіліны на хвіліну павінна прыехаць украінская дэлегацыя — настаўнікі, рабочыя, калгаснікі, літаратары. Супрацоўнікам музея хацелася, каб бацька выступіў перад гасцямі, пачытаў што-небудзь з твораў Коласа.**

**Украінцы з'явіліся а палове дванаццатай. Даніла Канстанцінавіч правёў іх па музеі, пазнаёміў з бацькам.**

**— Да нядаўняга часу Аляксандр Аляксандравіч Шырко працаваў брыгадзірам у саўгасе «Уздзенскі», цяпер пенсіянер, — сказаў ён. — Любіць паэзію, шмат што ведае на памяць. Зараз Аляксандр Аляксандравіч прачытае вам урывак з паэмы Якуба Коласа «Паслушная жонка».**

**Бацька ступіў крок наперад, усміхнуўся.**

**— Хай даруе мне Даніла Канстанцінавіч, — пачаў ён, — але я прачытаю напачатку невялікі ўрывак з «Энеіды» на... украінскай мове. Перад вайной пласцінка была такая. Двойчы паслухаў і запомніў на ўсё жыццё. Вы ўжо даруйце за вымаўленне, можа, слова якое скажу на беларускі лад.**

**Госці не чакалі такога сюрпрызу, суцішыліся. А бацька не стаў марудзіць, кашлянуў і падняў галаву:**

Тэпэр Энэй забрався в пэкло,<br>Прышов совсім на іншы світ,<br>Там всё помэрло, всё поблэкло,<br>Німа ні місіца, ні звізд.

**Калі скончыў, бацьку акружылі, паціскалі яму рукі, хвалілі.**

**А пасля палілося чароўнае коласаўскае слова:**

Эх, Таццянка, эх, дзяўчынка,<br>Скуль узялася яна,<br>Таня, гожая былінка,<br>Таня, красачка-вясна.<br>На ўсе рукі хват Даніла,<br>Хлопец спрытны і дужэц.<br>Плечы — сажань, рукі — сіла,<br>Адным словам маладзец.

**Тут бацька кінуў позірк у бок Данілы Канстанцінавіча: маўляў, ці не ён паслужыў прататыпам коласаўскага героя? Усе засмяяліся. Засмяяўся і Даніла Канстанцінавіч, развёў рукамі.**

А Даніла ненарокам<br>Таньку-любку пакахаў,<br>Аб красуні сінявокай<br>Жыў і марыў, і ўздыхаў.

**Я слухаў, а сам міжволі дзівіўся з таго, як па-майстэрску будуе сюжэт Якуб Колас. І — ніводнага лішняга слова. Не першы раз чую апавяданне, і ўсё роўна з нецярпеннем чакаю развязкі. Усё да геніяльнасці проста. Уяўляю, з якой цікавасцю слухалі людзі бацьку, калі ён у трыццатых гадах чытаў гэта апавяданне. У вёсках не было тады радыё, не хапала кніг, а тут — жывое коласаўскае слова. І сёння яно — ці не лепшая агітацыя за нашу мову і культуру. Цяжка зразумець, чаму вершаваныя апавяданні Якуба Коласа ніколі не выходзілі асобнай кнігай, чаму яны рэдка гучаць па радыё і тэлебачанні.**

**Калі мы вярталіся ўдвух з музея, бацька нечакана сказаў:**

**— А ведаеш, глянуў я сёння на Данілу і ўспомніў Юзіка, Коласавага брата. Як ён чытаў «Новую зямлю»! Сорак год прайшло, а помню, як сёння.**

**...Бацька вярнуўся з арміі ў канцы сорак шостага. Зіму нарыхтоўваў лес. Вясной пасадзіў бульбу і наняўся ганяць плыты, каб зарабіць якую капейку на хату (жыў з бацькамі ў зямлянцы).**

**Бярвенні звязвалі шварамі (іх вілі з галінак бярозы) тут у нас, у Чурылаве. Гналі плыты па Уздзянцы, пасля па Вусе, потым па Нёмане. Там ужо вальней, было дзе разгарнуцца, не трэба пастаянна адпіхвацца ад берагоў. На беразе дзе-небудзь раскладвалі цяпельца, варылі юшку. Адпачыўшы крыху, раніцай выпраўляліся ў дарогу — да Балтыкі.**

**Ноччу часта не спалася. Толькі прыгрэеш ля цяпельца адзін бок — выстыне другі. Вось і даводзіцца круціцца ўсю ноч. Таму і бацька, і яго брат Паўлюк, і ўсе астатнія чурылаўскія плытнікі ўзрадваліся, калі неяк ля Альбуці да іх падышоў худы вусаты мужчына і прапанаваў пераначаваць усім у хляве на вышках.**

**— Сена крыху засталося з мінулага году, мулка не будзе, — сказаў ён, — толькі ўжо, хлопцы, не курыце, — як прабачэння папрасіў мужчына. — У ха-**

**Валянцін ТАРАС**

# СЛУХАЦЬ СЯБЕ



Выраз, дакладней, патрабаванне «ісці ў нагу з часам»—гэта з лексікону жданаўшчыны, у іх чуваць рык фельдфебельскай каманды: «Р-р-р-авнение на время! Ш-а-а-гом марш!» І гора тым, хто ідзе «не ў нагу», хто ніяк не можа прыстасаваць свой крок да агульнай казарменнай хады, каму муляюць аднолькавыя для ўсіх, пашытыя на адзін капыл боты.

У кожнага паэта свой «абутак», сваё адчуванне і разуменне часу, свае складаныя адносіны з ім. Ён—паводле Б. Пастарнака—«вечности заложник у времени в плену», і яго дарога праз час, яго існаванне ў часе—штодзённыя ўцёкі з палону праз калючы дрот фельдфебельскіх рэгламентацый і табу да вечнасці, да ўсяго, што часу непадуладна. І, вядома, фельдфебель гэткага не пацерпіць: адных аглавушыць дубінай пастановы, каго сатрэ ў лагерны пыл, а каго застрэліць. Не адхіляйся ад «генеральнай лініі», ад галоўнай магістралі часу, накрэсленай чырвоным алоўкам вялікага правадыра і настаўніка...

Аднак рана ці позна высветліцца, што якраз тыя, што ішлі «не ў нагу», ішлі ў правільным кірунку, што іх блуканні, хістанні, іх заблытаныя сцяжыны, а не «генеральная лінія» былі дарогай праўды, дарогай да чалавека, да яго душы і сэрца. А тыя, што стараліся патрапіць «у нагу», няўхільна падпарадкоўваліся камандам—застануцца банкрутамі і перад тварам свайго часу, і перад тварам таго, які наступіў. І з нянавісцю пазайздросцяць колішнім ізгоям. О, не, яны ніколі не прызнаюцца ў сваёй зайздрасці і будуць бараніцца наіграным скепсісам, скажуць, што прага «да рукапісаў, якія не гараць», прага да твораў «з шуфляды», прага да некалі забароненага і абылганага—гэта «некрафільства», благая мода, што маўляў, не такія ўжо і высокамастацкія гэтыя творы «з шуфляды» тым, маўляў, толькі і цікавыя, што былі забаронены. Бо каму ж хочацца прызнавацца ў сваім банкруцтве? Нікому. Але асабліва тым, хто атрымаў у маршавай роце «лычкі» і шматлікія ўзнагароды за паслухмянасць, за ўменне хадзіць «па струнцы», хто настолькі прывык да каманды «смірна», што калі сказалі «вольна» — страціў раўнавагу.

Безумоўна, не ўсё тое, што прыйшло да нас «з шуфляды», з «самвыдату», з архіваў закатаваных—шэдэўры. У «падпольнай» літаратуры працавалі не адны вялікія таленты. Былі там і свае графаманы. Аднак трэба мець маральнае права кінуць камень нават і ў графамана які насуперак таталітарнай дзяржаве адважыўся пісаць праўду, называць рэчы сваімі іменамі, біцца галавой аб сцяну маны. Ці ёсць такое права ў тых, чые шуфляды аказаліся абсалютна пустымі, калі былі зняты ўсе забароны, чые творы цалкам адпавядалі патрабаванням вусатых, лысых і косназыкіх фельдфебеляў?

Бясспрэчна і тое, што далёка не ўсе «легальныя» паэты былі бяздары і манюкі. Ніхто ніколі не зганіць, напрыклад, светлы талент Аркадзя Куляшова, поўную болю і душэўных пакут музу Пімена Панчанкі, лірыку незабыўнага Мішы Стральцова, крамяны і сакавіты, як яблык, дар Сцяпана Гаўрусёва. Ды што там! У паэзіі нашай дзесяткі слаўных іменаў, за якія не сорамна (вось, нібы маланка працяла памяць — Еўдакія Лось, гарачым духам ладнай, спраўнай печы ў дабротнай хаце павеяла—Данута Бічэль, зазіхацела залатое лісце танкаўскага роздуму, у якім схаваны грымоты...). Але за гэтыя імёны і балюча. Бо многае ў іх творчасці напаўзадушана, прыціснута камянюкай «унутранай цэнзуры», многае сказілася, скасабочылася пад ціскам фельдфебельскага бота.

Ёсць і больш сумныя выпадкі. Вось Антон Бялевіч, чалавек стыхійнага прыроджанага таленту, сапраўды ад глыбіннай крыніцы, але засталіся пасля яго толькі асобныя яркія, сакавітыя, жывыя строфы і радкі, ну, можа, яшчэ паэма пра Маланню. Творчыя сілы ў цэлым былі патрачаны марна, бо занадта ж стараўся гэты паэт патрапіць «у нагу», чуйна слухаў усе фельдфебельскія каманды і загады, адгукаўся літаральна на кожную пастанову—ці то аб стане літаратуры, ці то па пытаннях павышэння надояў малака ў калгасах і саўгасах...

Паэт павінен слухаць сябе—свой талент, сваю ўнутраную мелодыю, бо талент ад Бога і ніхто не мае права ім камандаваць, як ніхто не мае права камандаваць селянінам. Камандаванне селянінам прывяло да таго, што дзяржава вымушана купляць хлеб за мяжой, да крухмальнай «кілбасы» і да сотні «дэфіцытаў». Камандаванне паэтамі вяло і вядзе да духоўнага жабрацтва, да масавага выпуску эрзац-паэзіі.

Хада паэта—гэта і ёсць хада часу, нават калі паэт ідзе «не ў нагу». Часцей за ўсё—менавіта таму ён і прыходзіць да моманту ісціны, што ішоў «не ў нагу», а як загадваў яму яго талент.

Думаю, што сапраўдная паэзія, сапраўдны верш, незалежна ад яго зместу (нават і публіцыстычны, палітызаваны) заўсёды ўяўляе сабою і «чыстую красу». Для мяне «краса»—гэта багацце мовы, гукапіс, смелая, свежая, нечаканая метафара, вынаходлівая рыфма, раскаванасць інтанацыі. У гэтым сэнсе, скажам, «Блакада» Рыгора Барадуліна і «Прыстасаванцы» Пімена Панчанкі, лірыка Міхася Стральцова і Сцяпана Гаўрусёва, роздумы Дануты Бічэль-Загнетавай, верлібры Максіма Танка, «На куццю» Янкі Купалы—усё не пералічыш!—ёсць паэзія «чыстай красы». А банальнае апяванне «родных краявідаў», «пейзанства», банальныя «элегіі кахання»—якая тут «чыстая краса»? Паўтараю, што і палітызаваны, надзённы верш, водгук на пэўную падзею, калі гэта водгук паэта, а не вершаскладальніка, можа мець вялікія эстэтычныя вартасці, выступаць як эманацыя чыстай паэзіі, яе красы. «Чыстая краса»—гэта пейзаж душы, дакладней, яе ландшафт з усімі асаблівасцямі.

А наконт натхнення скажу: апетыт прыходзіць, калі ясі. Перашкодзіць можа толькі сур'ёзная хвароба, альбо вялікія грамадскія падзеі. І пад страхам смерці я не напісаў бы ніводнага радка ў тыя дні, калі глядзеў па тэлевізары пасяджэнні Першага з'езда народных дэпутатаў СССР. Хоць, вядома, тое, што ўбачыў, пачуў і зразумеў, — крыніца будучага так званага натхнення. Стан душы такі, нібы перад табой паклалі чысты ліст паперы і напісаць на ім трэба нешта такое, што дасць табе ўрэшце павагу да сябе самога...

---

ту запрасіў бы, ды цесна, сям'я вялікая, не памесцімся.

— А як вас зваць? — спытаў бацька.

— Юзікам завуць, а прозвішча Міцкевіч.

— Дык як жа я не здагадаўся адразу! Вы — брат Коласаў! Чытаў пра вас у «Новай зямлі». Хочаце, нагадаю? — І, не чакаючы згоды Іосіфа Міхайлавіча, працытаваў:

А гэты Юзік-шаляніца,
Малы яшчэ, зусім дурніца,
Так пад нагамі і таўчэцца
Або, як хвост той, валачэцца
І ад работы адрывае
І толькі сэрца ад'ядае.

Іосіф Міхайлавіч, пэўна, не чакаў такой дасведчанасці ад плытніка:

— А што вы яшчэ Коласа ведаеце?

— «Батрака», «Паслушную жонку», «Ігрышча», «Святога Яна»... А яшчэ і вершаў некальні дзесяткаў, — не стрымаўся, каб не пахваліцца бацька.

— А я, дурань, думаў, што толькі ў мяне аднаго такая памяць! Дык не ж, ёсць яшчэ, не перавяліся на белым свеце аматары паэзіі.

— Прабачце, а вы што ведаеце...

— У адрозненне ад вас толькі адну паэму. але вялікую...

— Няўжо «Новую зямлю»? — прыйшла пара здзіўляцца бацьку.

— Ага, — сціпла адказаў Коласаў брат, — «Новую зямлю» ведаю... Толькі мне лягчэй, мусіць, было запомніць: там пра нашу сям'ю ўсё, як жылі даўней...

Дзядзька Юзік уладкаваў плытнікаў на вышках, а бацьку, як той ні ўпіраўся, пацягнуў у хату.

— Ты ўжо, браце, прабач, але тут я жыву, як на бязлюдным востраве, рад свежаму чалавеку, а тым больш такому, як ты... Пасядзім, пагаворым...

Хата была, як здалося бацьку, прасторнай. Гаспадыня, звычайная сялянская кабета, дастала з печы капусту, наліла ў міскі, нарэзала хлеба.

— Дзякуй богу, што з хлебам сёлета, — гаварыла яна, — відаць, хопіць да жніва, а той год ледзьве-ледзь да вясны дацягнулі...

— Прынясі сала, — папрасіў гаспадар, — госць пэўне ж прагаладаўся. На вадзе ой як есці хочацца. Па сабе ведаю, сам ганяў плыты.

— Ці ловіце рыбу? — спытаў бацька.

— І вудамі, і кломлямі ловім, — адказаў Іосіф Міхайлавіч, — тут ого-го рыбы... хапае і шчупакоў, і язёў, ёсць ліні...

Бацька — заўзяты рыбак. Яго хлебам не кармі — дай пагаварыць пра рыбалку... З «рыбных» тэм перайшлі на вайну. Бацька расказаў, як чытаў Коласа ў акопах перад боем, у страшным лагеры смерці Асвенціме, з якога ўдалося ўцячы незадоўга да вызвалення.

— Пачытай што-небудзь, — папрасіў Іосіф Міхайлавіч.

Мужчыны неяк хутка перайшлі на ты, хоць брат Коласа быў старэйшым год на дзесяць за бацьку.

Бацька пачаў чытаць «Батрака» — адно з самых вялікіх вершаваных апавяданняў Якуба Коласа.

Ніжацца слова да слова, бяжыць думка, як бясконцая нітка з кудзелі, разгортваецца аповяд пра гісторыю кахання беднага батрака і кулацкай дачкі...

Нарэшце скончыў бацька чытаць. Іосіф Міхайлавіч абдымае бацьку, гаспадыня рукавом выцірае слёзы.

— Так у жыцці не бывае, — зважаючы на шчаслівую развязку твора, кажа Іосіф Міхайлавіч, — гэта ў казках мужыцкія дзеці жэняцца на прынцэсах.

— Але ж гэта паэзія, ды якая паэзія! — кажа бацька.

— Паэзія! — згаджаецца Іосіф Міхайлавіч. — Але дай і я пачытаю, ты ўжо нябось прыстаў...

Дзядзька Юзік прыпадняў галаву, глянуў на столь, падкруціў вусы, і стаў дэкламаваць. Яго манера чытання была крыху іншай, чым у бацькі, больш артыстычнай ці што...

Гаспадыня пайшла ўрэшце спаць. А Іосіф Міхайлавіч і бацька выйшлі на ганак і да самай раніцы чыталі адзін аднаму Якуба Коласа.

Развіталіся сябрамі. Не раз ганяў бацька плыты. І не раз спыняліся плытнікі ля Альбуці, бацька начаваў у Коласавага брата, і кожны раз яны не маглі нагаварыцца. Іх, простых людзей, аб'ядноўвала паэзія. Расказвалі, што незадоўга да смерці дзядзька Юзік успамінаў плытніка з-пад Узды, які так хораша чытаў паэмы і вершы Коласа. А бацька і сёння згадвае тыя незабыўныя сустрэчы.

**Васіль ШЫРКО.**

---

# Наш Уладзіслаў

Было тое на станцыі «Мінск-таварная». Я ўжо не раз хадзіў туды пасля заняткаў, каб уклініцца ў якую талаку грузчыкаў і зарабіць колькі чырвонцаў на пражытак. А тады — спазніўся. Самадзейныя брыгады «ўкамплектаваліся». Сядзеў воддаль на зваленых у кучу шпалах і толькі пазіраў, як працуюць іншыя. І тут падыходзяць двое. Каржакаваты кажа:

— Стары! Нам не хапае трэцяга!

Я здагадаўся, пра што ён, і падняўся.

Працавалі моўчкі, упарта і з нейкай зацятай злосцю. Апоўначы пульманаўскі вагон быў разгружаны. У чаканні, калі з намі разлічацца, разгаварыліся. Аказалася, і каржакаваты, і яго напарнік — таксама студэнты універсітэта, жывуць у адным інтэрнаце са мною, толькі паверхам вышэй, таксама пішуць вершы і таксама не маюць галоўнага — грошай, каб дацягнуць да «сцяпухі». Але сёння мы — багацеі, сёння нам і мора можа быць па калені... Мо з гэтай нагоды каржакаваты (а гэта быў Уладзіслаў Нядзведскі!) сказаў, звяртаючыся да свайго напарніка (а гэта быў Генадзь Кляўко!):

— Прымем яго ў камунію!

Так я стаў членам «Троіцы», як пазней называлі нас аднакурснікі. Назаўтра аб'ядналі ўсё, што было — польчык рудзенскага сала (Генадзеў пай), клін мікашэвіцкага сухога сыру (Уладзіславаў пай), глячок добра ўсоленага косаўскага масла (мой пай), заробленыя грошы— і адчувалі сябе на сёмым небе.

Старэйшы за мяне і Генадзя, Уладзіслаў стаў лідэрам «Троіцы», спрабаваў нават сточваць канцы з канцамі ў нашай няхітрай гаспадарцы. Але хапіла яго не на доўга. Ініцыятыву пераняў болей гаспадарлівы Кляўко. Толькі ў адным Уладзіслаў застаўся верным сабе:

— Трэба, каб словы ў радку стаялі густа, — не раз тлумачыў ён. — Як набоі ў абойме. Тады верш будзе біць без прамашкі.

Мы нярэдка ўцякалі з лекцый, каб, як казаў Уладзіслаў, падыхаць свежым паветрам, на людзей паглядзець ды сябе паказаць. Але якое там свежае паветра ў горадзе! І чаго глядзець на тых людзей, якія вечна некуды спяшаюцца! І ці з рукі паказваць сябе іншым, калі ты зусім «не фацэтны»! Паперадзе ў картовым касцюмчыку (падарунак дырэктара Мікашэвіцкага дзетдома!) ураз-валачку ішоў Уладзіслаў, за ім у ботах з палатнянымі халявамі і чорнай суконнай гімнасцёрцы з чужога пляча тупаў я, за мною ў нязменным сінім плашчыку цягнуўся вечна маўклівы Генадзь. Дапазна хадзілі па вуліцах яшчэ не адбудаванага Мінска, таўкліся на прывакзальнай плошчы, у суседнім сквернку, а тады кіравалі на Маскоўскую. Там, паблізу чыгуначнага моста, на развілцы вуліц, заўсёды сядзеў бязногі, вечна п'януваты і ажно чорны ад сонца інвалід. Уладзіслаў спыняўся, поркаўся ў кішэні, даставаў жменьку драбязы (ён у нас усё ж заставаўся за касіра) і высыпаў яе ў шапку бязногага:

— Трымайся, стары!..

Аднойчы, калі трохі адышліся ад таго месца, я сказаў:

— Праклятушчая вайна. Што нарабіла з людзьмі...

Уладзіслаў раптам спыніўся. Вочы яго былі страшныя.

— Не трэба, стары! — крыкнуў ён раптам. — Не напамінай!..

А назаўтра Уладзіслаў знік.

Праз тыдзень ён з'явіўся. Выгляд меў хваравіты. Паклаў на тумбачку клін мікашэвіцкага сухога сыру і апраўдваўся:

— Верш напісаўся...

І стаў чытаць. Строфы — спружыністыя, рыфма — дакладная. А верш быў пра яго родныя Рахавічы, што на Старобіншчыне. Пра тое, як там палілі жывымі людзей. Як яго і ягоную сястрычку цудам уратаваў лес. Як потым яны трапілі ў дзетдом... А прачытаў — змоўк. У той дзень мы не пачулі ад яго болей ні слова.

Аднойчы на зазімку, пасля разгрузкі чарговага «пульмана», вярталіся дамоў. У святле вулічных ліхтароў біліся першыя сняжынкі. На душы ў кожнага з нас было няўтульна. Ды гэтак зазыўна і па-дамашняму цёпла свяціліся вокны баракаў! Насупраць аднаго спыніліся. Праз марлевую фіранку бачым: ён — чытае, яна — вяжа, ля ног круціцца дзіцянё. Генадзь кінуў:



У. Нядзведскі. 1965 г.
Фота Ул. КРУКА.

— Ідылія!

Уладзіслаў запярэчыў:

— Жывуць!..

І адчайна пацягнуў у нейкую забягалаўку, частаваў «бархатным» півам і вэнджаным вугром. Тады я ўпершыню пачуў, як Уладзіслаў спявае. Голас ён меў не вельмі, ды колькі было ў ім душэўнасці! Спяваў на той раз польскія песні — сумныя і раздумлівыя. І ў кожнай чыталася туга па нечым вельмі далёкім і надзвычай дарагім...

Нарэшце распусцілі нас на вакацыі. Я прапанаваў Уладзіславу:

— Махнём на Косаўшчыну! Хоць бульбы ад'ямося...

— Не, — як адрэзаў ён. — Дамоў трэба, у дзетдом...

А потым я з'ехаў з Мінска. Дарогі мае толькі зрэдзь прыводзілі ў сталіцу. У адзін з такіх прыездаў (якраз тады выйшла з друку ягоная аповесць «Хлопцы з другога корпуса») Уладзіслаў прызнаўся:

— Стары! А я пабойваўся. Выдаўцы, думаў, зарэжуць.

Я шчыра сказаў:

— Густа ж напісана!..

Мінулі гады. Я ўжо працаваў у «Вожыку». Заходзіць аднойчы Генадзь (ён быў у нас адказным сакратаром часопіса) і кажа:

— Наш Уладзіслаў прапаў...

Толькі потым даведаліся: яго знайшлі на дарозе. Некуды спяшаўся. І не дайшоў.

Мне падумалася тады: мо да нас ішоў?

Ён заўсёды прагнуў сустрэчы. Каб пабыць разам. Каб памаўчаць. І вось...

Наўмысна не сказаў нічога пра творчасць таварыша. Хацелася — пра чалавека. Які ўвесь час чакаў ад жыцця лепшага.

А яму было б цяпер толькі шэсцьдзесят!..

**Яраслаў ПАРХУТА.**

*Проза*

**Анатоль Дзялендзік**

# КАШМАР



*АПАВЯДАННЕ*

ШТО РОБІЦЦА! Што робіцца!

У Дубасава была старэчая паходка. Высокі, сівы, чырванашчокі, ён хадзіў па вуліцы і са злосцю зрываў аб'явы народнага фронту аб мітынгу ў Курапатах. Да чаго сталі нахабныя! На людных месцах! І куды толькі глядзяць органы? Хіба раней можна было ўявіць такое?! Гэта канец. Усяму канец. Усё распадаецца. Коціцца ўніз. А семдзесят жа гадоў стваралі! З такой цяжкасцю! Атрымліваецца, як сказаў мярзотнік унук, жыў дарэмна? Не тое рабіў, не тым багам маліўся? І ўсе ўзнагароды, званне, пенсія... Вось вам! З'ешце! Не думаў, што дажыву да гэтых смутных дзён.

Дубасаў прыйшоў дадому, прайшоўся па пустых пакоях. Уключыў тэлевізар. Дастаў з халадзільніка пачатую бутэльку «Сталічнай», масліны, лустачкамі нарэзаў сервілат. Кіўнуўшы гіпсаваму бюсту правадыра, выпіў кілішак. Гледзячы перадачу, усё больш і больш раздражняўся. Калі прамоўца сказаў «сталінскі фашызм», Дубасаў не вытрымаў, пераключыў на іншую праграму. Але і там народныя дэпутаты неслі такое... «Прыцягнуць партыю да адказу за трагічную гісторыю краіны!» Гэта ж трэба дадумацца! Як быццам сама партыя не пацярпела... Са злосцю вырваў шнур. Моташна слухаць, Іосіф Вісарыёнавіч! Як можна гаварыць, што тады ўсё было блага, не так, а вось цяпер, пры новым кіраўніцтве... Падхалімы, фарысеі! Нічога ў вас не атрымаецца. І пры новым усё пойдзе па-ранейшаму. Воз той жа. Ды і чалавечая прырода недасканалая. Пры ўсіх рэжымах наперад пралазілі спрытныя жучкі... І ў перабудову, і ў недабудову. А Яго вучэнне — святое! І быў Ён — геніем! Сціплым, бескарыслівым. Шаўкі! Што ж тады, пры Ім — ніводзін? Мала каралі. Калі ў чым Яго абвінавачваць, дык толькі ў тым, што не паспеў перад вайной ачысціць краіну ад нечысці. Не было б столькі паліцаяў. Забыліся, што вайну выгралі з лозунгам «За Радзіму! За Сталіна!»?

Паглядзеў на барвовыя томікі з залатымі літарамі, адзін узяў у рукі. Да чаго ж ясна, вобразна мысліў! Як здзекаваўся з праціўнікаў: «Ленін памыляўся, а Бухарын заўсёды меў рацыю!» «У Бухарына і кулак — не кулак, і серадняк — не серадняк, а нейкая суцэльная галеча на вёсцы. Ён так і гаварыў тут у сваёй прамове: хіба наш кулак можа быць названы кулаком? Ды гэта ж жабрак, — гаварыў ён. А наш серадняк — хіба ён падобны на серадняка? — заяўляў тут Бухарын. — Гэта ж жабрак, які жыве напаўгалодны. Зразумела, што такі погляд на сялянства з'яўляецца ў корані памылковым поглядам, несумяшчальным з ленінізмам». Беражліва паставіў томік.

Цяпер у перагібах абвінавачваеце таварыша Сталіна. Але хіба не самі вы чарнілі адзін аднаго ў газетах? Гramілі на сходах, спяшаліся данесці? За намі заставалася толькі выкананне вашых жаданняў...

Падумаеш, Курапаты! Узнялі такі вэрхал! З-за чаго? Правільна сказаў Іосіф Вісарыёнавіч: «Лес сякуць — трэскі ляцяць». Хочаце ведаць, як было? Ужо я пра Курапаты змог бы многае расказаць! І не толькі пра Курапаты. Але вось вам, хрэн з рэдзькай! А самі — нічога не раскапаеце. Толькі костачкі, ды і то не ўсе... Хіба які-небудзь выжыўшы з розуму пакаецца... Такіх — вешаў бы! Горш за юду!

Зняў трубку тэлефона, паслухаў. Працуе. Проста ніхто не звоніць. Даўно не звоніць. Ну і д'ябал з імі.

Дапіў сталічную, лёг. Доўга не мог заснуць. Успомніў, што напярэдадні быў на дачы ў стрыечнай сястры, жонкі акадэміка. Не хацеў ісці ў гэту кампанію, а давялося — дзень нараджэння Валянціны, круглая дата, таксама семдзесят. Але такога разгулу контррэвалюцыі, такой антысаветчыны ён не чуў нават у следчых камерах, калі выціскаў паказанні. «Кастрычнік — памылка, трэба было спыніцца на лютым». Падонкі! На ўзлеску, ля вогнішча, госці пілі шампанскае і елі шашлыкі, паліваючы брудам усё для яго святое. Дубасаў моўчкі цярпеў — у гэтай зграі ён быў адзін. Між іншым, быў там замежны госць, амерыканец (цікава даведацца, ці атрымаў ён дазвол на выезд з горада). І ўжо так перад ім усе выдыгалі, ганьбячы ўсё савецкае! «Паслухайце, — сказаў амерыканец, — а раптам... назад?» «Цяпер?! Што вы! Немагчыма!..» Якія яны ўпэўненыя! Мярзотнікі.

Дубасаў тады не вытрываў, паехаў з вакханаліі.

Цяпер ляжаў у цемры і думаў — няўжо назаўсёды, беспаваротна? Няўжо не знойдзецца моцны, смелы чалавек, які б спыніў, павярнуў? Куды падзеліся героі? Здавалася, літаратура сацыялістычнага рэалізму толькі і займалася іх выхаваннем, а вось глядзі ж ты... Разбегліся, пахаваліся. Нават афганцаў не відаць.

Адзін. Як воўк.

Раптоўна ён пачуў гул. Спачатку слабы, не надаў яму значэння, але потым гул стаў мацнейшы. Падобна, ішла цяжкая тэхніка. Што гэта — рэпетыцыя парада? Кастрычніцкія святы мінулі.

Дзіўна, гэта быў не парад... Панурыя танкі стаялі на пустынных перакрыжаваннях. Зябка пацепваліся салдаты. Халодны вецер гнаў абрыўкі газеты «Московские новости», вокладку часопіса «Огонёк».

На кухні раптам пачуў пазыўныя Масквы. Загаварыла радыё:

— Працуюць усе радыёстанцыі і тэлебачанне Савецкага Саюза...

Дубасаў паспяшаўся да прыёмніка, зрабіў гучней. Але дзесьці кантакт быў парушаны, не ўсе словы чуліся.

— Пазачарговы надзвычайны Пленум ЦК вызваліў... Пленум выбраў... кіраўніком ЦК і ўрада палкоўніка Дылава...

Божухна! Збылося! Кінуўся да тэлевізара, уключыў.

На экране да трыбуны рашуча ішоў худы злосны чалавек. «Падобны на Суслава!» — чамусьці ўзрадаваўся Дубасаў. Палкоўнік засмучана сказаў:

— Таварышы! Трэба прама і шчыра сказаць, што апошнія гады краіна кацілася ў бездань. Мы ўсё далей і далей адыходзілі ад марксізму-ленінізму, ад класавай барацьбы. Мутная хваля перабудовы і галоснасці выплеснула на паверхню палітычных авантурыстаў, унесла непапраўны хаос у эканоміку, размыла ўстоі. Аўтарытэт партыі ўпаў да самага нізкага ўзроўню. Вызначыўся небяспечны паварот да буржуазнай ідэалогіі, да капіталізму.

— Ёсць праўда! Ёсць! — на вачах Дубасава выступілі слёзы.

— У гэтых умовах, — працягваў палкоўнік, — калі забастоўкі паралізавалі краіну і нацыянальная разня дасягнула апагею, калі народны фронт, які разбушаваўся, фактычна захапіў уладу і многія рэспублікі рыхтуюцца выйсці з Саюза, здаровае ядро партыі, пры падтрымцы арміі і органаў узяло на сябе адказнасць... Па ўсёй краіне ўводзіцца надзвычайнае становішча, аб'яўляецца каменданцкая гадзіна...

Дубасаў узняў рукі, у танцы прайшоўся па пакоі:

— Дачакаўся! Нарэшце-такі!

А далей ён убачыў падзеі адну за адной, як у кіно. Сам у іх не ўдзельнічаў, а толькі назіраў, зрэдку падаючы рэплікі.

Верталёты з рокатам праносіліся над горадам.

На вуліцах хапалі абураных дэманстрантаў, асепленых слезацечным газам, запіхвалі ў грузавікі, крытыя брызентам. Да пад'ездаў дамоў пад'язджалі «варанкі». Арышты вяліся па спісах. Салдаты выводзілі напаўапранутых мужчын, саджалі ў грузавікі. Вуркочучы, машына за машынай аб'язджалі кварталы.

Гучалі адзіночныя стрэлы і аўтаматныя чэргі.

— Так ім і трэба!

Па завулку ішлі пенсіянеры і дужыя малайцы ў пыжыкавых шапках і туфлях «Саламандра» з транспарантамі: «Далоў перабудову!», «Заткнём смярдзючы рот галоснасці!» Бронетранспарцёры, якія ішлі насустрач, віталі кветкамі, хлебам-соллю. Радасці не было мяжы:

— Нашы! Нашы прыйшлі!

Строгая жанчына ў скуранной куртцы, з пісталетам на баку, раз'язджала ў кузаве грузавіка і выступала з палымянай прамовай «Не магу адступіцца ад прынцыпаў!»

Малады бязногі афганец, з медалямі на грудзях, разбіваў мыліцамі ларкі страката апранутых кааператараў.

На легкавых машынах іншаземцы імчалі ў аэрапорт. Узняўшы каўняры, уваходзілі ў самалёты, пакідалі краіну. Кантакты абрывалі. Праўда, генералы з НАТО, албанскія кіраўнікі і амерыканскія ястрабы накіравалі новаму кіраўніцтву радасныя тэлеграмы.

Газетныя кіёскі былі зачынены — не было чаго прадаваць. Выходзілі толькі газета «Устав» і часопіс «Органы», былы «Огонёк». Зноў глушылі замежныя радыёстанцыі. Ішла барацьба з царквой.

Ва ўсіх кінатэатрах круцілі толькі тры фільмы: «Клятва», «Падзенне Берліна» і «Кубанскія казакі».

Над актывістамі перабудовы адбываліся паказальныя працэсы.

Са зларадаснасцю Дубасаў назіраў адчай, апатыю інтэлігенцыі. Некаторыя накладалі на сябе рукі, кідаючыся ўніз з вокнаў вышынных дамоў. Іншыя спалохаліся, выцягнулі рукі па швах, падрыхтаваліся чакаць загадаў. Трэція кінуліся старанна выконваць... «А ведаеце, штосьці ў арміі ёсць прывабнае!»

Пакольні цэны знізілі і абмежаванні на гарэлку былі зняты — яе прадавалі на разліў нават старэнькія на вуліцах, — асноўная маса насельніцтва аднеслася да перавароту з сімпатыяй.

Ва ўсю працавала прапагандысцкая машына. Знайшліся дзейсныя лозунгі, зразумелыя масам. Маўляў, тое, што было ўчора, — не сапраўдная перабудова, лепш жа жыць не стала. «Нам навязвалі арцельны сацыялізм. А вось зараз пачнуцца сапраўдныя змены — архіперабудова! Вяртанне да Маркса і Леніна! Сапраўдны Ленінізм!»

Быў урачыста рэабілітаваны Сталін. Труну дасталі з магілы ля Крамлёўскай сцяны і з ушанаваннямі ўстанавілі ў Палацы з'ездаў. Паломнікі тысячамі ішлі да яго астанкаў. Закрываючы рубінавыя зоркі, калыхаўся вялізны транспарант: «Ні адлегласць, ні час не спыняць тых, хто сюды ідзе». Уносіліся вернападданыя запісы ў кнігу водгукаў. У моду ўвайшлі вусы, люлька, як у Іосіфа Вісарыёнавіча, невысокія васпаватыя мужчыны, грузінскае віно — «Твішы», «Хванчкара», «Кіндзмараулі». На сценах дамоў з'явіліся партрэты яго паплечнікаў.

Дагматыкі і кансерватары трыумфавалі, але нядоўга. Тое, што адбылося ў далейшым, здзівіла нават сталіністаў.

Была створана вытанчаная сістэма кантролю над кожным. Укаранёны самаспраўздачы. Вобласці перайменаваны ў зоны. «Крута! — усміхнуўся Дубасаў. — Нават пры Сталіне такога не было».

Ва ўсіх установах зроблены пасты міліцыі. Старанна ахоўваліся нават грамадскія туалеты. Уваход бясплатны — уступкі простым людзям, — але строга па пашпартах. Каб там не наладжваліся сходкі, сцены былі зроблены са шкла.

Калі выкладчыкі універсітэта заявілі пратэст у сувязі з арыштам вялікай групы моладзі, у аўдыторыю ўвайшоў маёр у суправаджэнні аўтаматчыкаў, падазрона пагледзеў на незнаёмыя партрэты.

— Устаць! Пастроіцца ў шарэнгу! — ён выцягнуў руку ўбок.

— Што здарылася? — спыталася пажылая жанчына, суседка Дубасава.

— Чулі каманду?! — рыкнуў ваенны.

Выкладчыкі пастроіліся.

— Раўняйся! Не бачу грудзей чацвёртага чалавека! — сказаў маёр прафесару, які стаяў між паўнагрудых жанчын.

— Што адбываецца? — абурылася аспірантка Антаніна. Дубасаў пазнаў нявестку свайго свавольнага ўнука. — Няўжо скарачэнне арміі — падстава для перавароту?!

— Смірна! — скамандаваў маёр. — І не варухніся! — Ён стаў тварам да строю. — Дэмакратыя прывяла да анархіі. Разбэсціліся! Разгаварыліся! Але з гэтым пара канчаць. Чаму забыты цудоўныя словы — дыктатура пралетарыяту? Ёсць думка: з панядзелка на фабрыку — строем, маршавым крокам, з песнямі, — ён хадзіў перад выкладчыкамі, рыўком падцягнуў штаны старэнькаму прафесару. — Адзенне на ўсіх — ахоўнага колеру. На нагах — боты. Жанчынам дазваляюцца ўпрыгожанні — процівагаз, сапёрная рыдлёўка. Уводзіцца жалезная дысцыпліна. За размовы — гаўптвахта! За анекдоты — трыбунал! Звяртацца: «Таварыш камандзір універсітэта, дазвольце...» Пры гэтым казыраць, шчоўкнуўшы абцасамі.

Абураная Антаніна штосьці шапнула суседцы.

— Маўчаць! — выбухнуў ваенны. — Усе выкладчыкі будуць разбіты на пяцёркі. Старшыя пяцёрак кожны вечар павінны дакладаць аб стане баявога духу сярод асабовага саставу. Пытанні адставіць! Нале-ва! Шагам марш! Па кругу бягом! Хутчэй! Раз-два! Раз-два! Шагам марш! Установа — стой! Лажыся! Устаць! Лажыся! Устаць! Лажыся! Устаць! Раўняйся! Забудзьце слова «вольна»...

Ваенная бюракратыя ўзяла ў рукі ўладу, але кіраваць краінай не магла. Таму шалела. Лагеры былі перапоўнены. Рабочым строем вадзілі на работу. У цэхах назіралі вартавыя, але вынікі былі ніякія.

Да старога вярнуцца было немагчыма, а куды ісці — ваенныя не ведалі. «Слабакі!» — паскардзіўся Дубасаў.

Універсітэт і інстытуты закрылі, таму што менавіта ў студэнцтве армія адчувала найбольш моцнае супраціўленне. Развіццё навукі і культуры было прыпынена, хоць на самым вялікім стадыёне ішлі рэпетыцыі грандыёзнай оперы «Серп і молат».

Побач з маўзалеем Ільіча тысячы зняволеных (ЗП, застрэльшчыкі перабудовы) узводзілі гіганцкую скульптуру Сталіна, вышэй за статую Свабоды, для чаго давялося разабраць крамлёўскую сцяну і некалькі жылых дамоў. «Вялікаму Сталіну, ахвяры перабудовы». З вачніц скульптуры вялося назіранне за краінай — пражэктары, лакатары, электронныя падслухвальнікі... Уначы гіганцкі волат, быццам уваскрэслы, наводзіў жах на прахожых, паволі варочаючы галавой. Усярэдзіне гэтага хмарачоса ведамства кантролю захоўвала дасье на кожнага жыхара краіны.

Каб прыструніць непакорлівых, у краіне быў арганізаваны голад. Усё выдавалі па талонах, нават ваду, але ў магазінах у літаральным сэнсе было пуста. У булачных

(Працяг на стар. 11).

Надзённая размова

# З душой да МУЗЫКАНТА

**Наш субяседнік — мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі М. ФІНБЕРГ**

**— Акурат у гэткі ж час пазалетась ішлі рэпетыцыі першай праграмы Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі. На адной з іх калектыў сімвалічна справіў дзень свайго нараджэння. Але сарамяжлівым пачаткоўцам ён зусім не выглядаў: ужо тады гэта быў самастойны арганізм са сваёй творчай перадгісторыяй, рэпертуарным аблiччам і акрэсленымі планамі. Барані мяне божа рабіць кампліменты, проста факт ёсць факт: аблічча аркестра вызначала, Міхаіл Якаўлевіч, ваша пазіцыя — як ініцыятара яго стварэння, арганізатара, мастацкага кіраўніка, галоўнага дырыжора.**

**Нагадаю чытачам: у пачатку 80-х, калі пра стварэнне ў рэспубліцы эстраднага аркестра ўсур'ёз не гаварылі, існаваў калектыў энтузіястаў гэтага жанру. Яны ў вольны ад асноўнай працы час рыхтавалі праграмы так званай лёгкай музыкі беларускіх кампазітараў, рабілі аранжыроўкі інструментальных п'ес, песень, выступалі з канцэртамі, запісваліся на пласцінкі, прапагандавалі джазавую класіку. Гэта быў вядомы і за межамі Беларусі аркестр Мінскага дзяржцырка пад кіраўніцтвам М. Фінберга. І калі ўзніклі матэрыяльныя ўмовы для стварэння ў рэспубліцы эстраднага аркестра, пытанне яго лідэра вырашылася само сабою.**

**А для Беларусі гэта досыць рэдкі прыклад, калі за дырыжорскі пульт стаў музыкант «сваёй гадоўлі». Больш тыповая з'ява для нас — запрашэнне дырыжорскіх кадраў і (ужыву моднае сёння слова) іх ратацыя. Дык скажыце, калі ласка, Міхаіл Якаўлевіч, як вы зрабіліся... невыпадковым чалавекам у беларускай эстраднай музыцы?**

— Нарадзіўся я ў Мазыры. Пачынаў вучыцца на скрыпцы, потым на баяне, нарэшце, паспрабаваў іграць у духавым аркестры, там утварыўся эстрадны ансамбль; ігралі папулярныя тады, у 50-я гады, песні. Мяне да такой музыкі цягнула — вабіла яе святочнасць, яркасць, эмацыянальнасць, скіраванасць да сучасніка. Паступіў выхаванцам у вайсковы аркестр, апынуўся ў Мінску; праз нейкі час без праблем скончыў музычнае вучылішча як трамбаніст, затым экстэрнам — Беларускую дзяржаўную кансерваторыю, паступіў у аркестр тэлебачання і радыё. Эстраднай спецыфіцы нашых музыкантаў не вучылі, таму кожны ладзіў сабе прафесійную школу сам. Мне ў гэтым вельмі дапамагаў кампазітар і аранжыроўшчык Я. Грышман, а таксама кіраўнік знакамітага некалі ў краіне аркестра — В. Людвікоўскі.

**— А ці паўплываў на вас вопыт Б. Райскага, які доўгі час узначальваў аркестр Дзяржтэлерадыё БССР?**

—У Б. Райскага, які стварыў дыхтоўны і працаздольны калектыў і быў адзіным на Беларусі ў 60-я гады дырыжорам, дасведчаным у эстрадных жанрах, я таксама па-свойму вучыўся. Праўда, асабліва цесна супрацоўнічаць з ім не давялося: калі колішні эстрадны аркестр радыё змяніў жанравы профіль, пераарыентаваўся цалкам на сімфанічную і оперную музыку, я пазбавіўся мажлівасці ўдасканальвацца ва ўлюбёным жанры. Таму перайшоў у аркестр цырка. Дырыжорам спачатку, потым стаў галоўным. Адначасова скончыў аспірантуру пры БДК, і калі там пачалі наладжваць эстрадную спецыялізацыю, арганізаваў эстрадны аркестр, выкладаў...

Праз тры гады неабходная для рэспублікі справа падрыхтоўкі эстрадных музыкантаў у ВНУ была перапынена. Чаму — не разумею. Дзе ж яшчэ браць карэнныя музыканцкія кадры, як не са сваёй крыніцы? І няўжо мала было сказана і на рэспубліканскім, і на саюзным узроўні пра тое, якую шкоду ідэйна-эстэтычнаму выхаванню нашага грамадства, духоўнаму ўзроўню і слухачоў, і саміх музыкантаў прыносіць няўвага да развіцця эстрадных жанраў? Так званая лёгкая музыка ў лепшых яе ўзорах разам з акадэмічнай класікай абуджае і фарміруе душу. І нельга без душы ставіцца да яе!

**— На жаль, многія проста не разумеюць, недаацэньваюць СУР'ЁЗНАСЦЬ эстраднага музіцыравання, успрымаюць «лёгкі» жанр з большай або меншай доляй цярпімасці. Маралісты ад музыкі доўгі час зводзілі ў адно джаз, сімфаджаз, рок, самадзейныя ВІА, бардаўскую песню, а часам і аперэту — і чаплялі бірачкі: «шкоднае», «не наскае», «пошласць», «трэці гатунак», «благі густ»... Скуль жа возьмуцца душэўнае стаўленне да эстрадных музыкантаў, традыцыі школы, разуменне кадравых праблем! Вось і вы, Міхаіл Якаўлевіч, да прафесіі дырыжора эстраднага аркестра ішлі няпроста — нават цяжка назваць канкрэтнага вашага настаўніка па спецыяльнасці. Думаю, ёсць праблема дырыжорскіх кадраў і ў вашым калектыве...**

— Хацеў бы, каб калег у мяне было значна больш. І ёсць жа кафедра аркестравага дырыжыравання ў БДК, але чамусьці дырыжораў на Беларусь увесь час аднекуль завозім... Паверце, я паважаю і вітаю добрых музыкантаў, якія, прыехаўшы ў рэспубліку, шчыра далучаюцца да спраў нашай творчай інтэлігенцыі. Але ў мяне баліць душа, калі выключэнні ператвараюцца ў правіла. Рэспубліка павінна сама сябе забяспечваць кадрамі: і для аперэты, і для сімфанічных аркестраў, і для эстрады.

У нашым аркестры я сёння адзіны дырыжор. Як ладзіцца праца? Два гады таму я меў магчымасць запрасіць у штат лепшых эстрадных музыкантаў з рэспублікі і нават з-за яе межаў. Я вельмі ўдзячны за такую магчымасць рэспубліканскаму кіраўніцтву: калектыў укамплектаваны музыкантамі высокага класа. І кожны, так бы мовіць, найлепшым чынам адшліфоўвае сваю дэталь, а мая справа — арганізаваць з усіх гэтых дэталяў гарманічную цэласнасць. Дзякуючы высокаму прафесіяналізму і культуры творчасці, нашы музыканты здатныя рэпеціраваць і без дырыжора, калі вядзецца праца па аркестравых групах. Такой працы мы надаём вялікае значэнне, таму многія, найперш канцэртмайстры груп, атрымліваюць магчымасць пастаяць за дырыжорскім пультам і адчуць, што адбываецца з інструментальным гукам, як мяняецца ён, дасягнуўшы дырыжора і спалучыўшыся з многімі іншымі гукамі. Спасцігаюць ролю чалавека, які павінен збалансаваць інструментальныя галасы і накіраваць гэтую гукавую плынь у залу. Сур'ёзная праца па групах дае мастацкі вынік і спрыяе згуртаванасці музыкантаў. Яе праводзяць канцэртмайстар струнных Л. Каліноўская, В. Шчарыца і Г. Грачухін, якія рэпеціруюць з трубамі, трамбонамі; В. Барма і І. Мішура — з саксафонамі; А. Архіпаў і А. Шпянёў — яны найчасцей займаюцца з рытм-групай.

**— Добра, калі ў маэстра такія надзейныя паплечнікі. Але ж артыстам раней ці пазней спатрэбіцца змена, а ў вас ужо не будзе другой магчымасці выбіраць лепшых музыкантаў з усяе краіны.**

— Так, над праблемай творчай пераемнасці кадраў думаць трэба ўжо сёння. Я з нейкай зайздрасцю глядзеў па тэлебачанні перадачу пра мінскае «Дынама»: пазайздросціў Э. Малафееву, які паездзіў па рэспубліцы, паглядзеў, як гуляюць маладыя футбалісты другой лігі, і ў рэшце рэшт сабраў новую каманду. Дырыжор жа колькі заўгодна можа ездзіць па рэспубліцы, ад Брэста да Наваполацка, а «каманду» не збярэ. Маладыя кадры чэрпаць нам няма адкуль, добрых інструменталістаў гадуюцца адзінкі. І прэтэнзіі да музычных навучальных устаноў растуць.

Ёсць там свае аб'ектыўныя праблемы, але яны былі і раней, і нельга заплюшчваць вочы на тое, што ўзровень падрыхтоўкі музыкантаў у рэспубліцы знізіўся. Раней гаварылі, што адбываецца станаўленне педагагічных і вучэбна-творчых калектываў. Час мінае і мяняецца, і трэба даваць аб'ектыўную ацэнку таго, што маем, сумленна прызнаць: дзяржава выдаткоўвае грошы, навучальныя ўстановы робяць справаздачы аб колькасці падрыхтаваных музыкантаў, а працаваць амаль няма з кім.

Аркестр не павінен выпраўляць заганы навучання. Але калі ўжо ў падрыхтоўцы змены спадзяванні на музычныя навучальныя ўстановы пакуль марныя, трэба шукаць свой шлях адукацыі спецыялістаў. Пры падтрымцы Музычнага таварыства і Міністэрства культуры БССР мы правядзём увосень першы Рэспубліканскі фестываль-конкурс вялікіх эстрадных аркестраў. Іх у нас небагата, каля дзесятка, але іграюць там сапраўдныя аматары гэтага жанру — і раптам фестываль дапаможа адкрыць малады талент, які можна развіць у прафесійным калектыве?

**— Фестываль, відаць, выкліча цікавасць педагогаў ДМШ, вучылішчаў, будучых музыкантаў, прынясе ім карысць, дапамогу...**

— Хацелася б, каб гэтак было! Бо вельмі насцярожвае абыякавасць, якая ўсё больш працінае сферу мастацтва. Падумаць толькі: новы аркестр сабраў выдатных музыкантаў, якія лепш за ўсялякія падручнікі раскажуць і пакажуць прафесійныя сакрэты, дапамогуць асвоіць жанр, але ж дзяліцца прафесійным вопытам няма з кім! Каму будуць перадаваць нашы музыканты свае навыкі? Інертнасць, незацікаўленасць нашых калег з навучальных устаноў проста палохае! За два гады існавання аркестра, гастроляў яго па рэспубліцы ніхто з педагогаў ці навучэнцаў не звярнуўся да нас па кансультацыю, ніхто не прапанаваў правесці творчую сустрэчу. Затое ў Маскве, у Ленінградзе да нас за кулісы наведваліся спрактыкаваныя музыканты-духавікі, нават прафесары, распытвалі пра спецыфічныя прыёмы гуказдабывання, абменьваліся з беларускімі калегамі прафесійнымі хітрасцямі.

**— Самі вы не спрабавалі зацікавіць моладзь да творчых кантактаў з аркестрам?**

— З 1 верасня адкрываем прафесійную студыю пры аркестры — першую ў сваім родзе. У гэтай справе нас падтрымала кіраўніцтва рэспублікі, так што, спадзяюся, будзе магчымасць стварыць для моладзі добрыя ўмовы: з імі будуць займацца педагогі па акцёрскім майстэрстве, па грыме, балетмайстар. Усё гэта плюс пастаянны кантакт з прафесійным аркестрам павінна паспрыяць выхаванню нашых будучых кадраў. І мы не гонімся за колькасцю. Здольных, а тым больш таленавітых людзей сустракаюцца адзінкі, важна знайсці іх, а ўжо нашы музыканты пастараюцца за педагогаў. Дарэчы, настаўніцтва як форма работы майстроў з маладымі калегамі ў нас існуе і сёння. Гэта клопат такіх вопытных артыстаў, як В. Шчарыца, Г. Грачухін, В. Барма, І. Мішура і інш.

**— Аркестру патрабуюцца і яркія салісты-вакалісты. У рэспубліцы ж ёсць праблема іх падрыхтоўкі...**

— Так, сітуацыя складаная. Спадзяёмся, зноў жа, на сябе. Запрашаем для ўдзелу ў канцэртах вядомых спевакоў (выступалі з Л. Долінай, Л. Лешчанкам, І. Кабзонам, Т. Гвердцытэлі, Т. Рузавінай і С. Таюшавым, П. Дзяменцьевым, Д. Шагаевай і інш.). Але мы не збіраемся завабліваць у штат ужо сфарміраваных «зорак». Шукаем пакуль «безыменную» здольную моладзь, дапамагаем, гадуем. І маем ужо сваіх досыць папулярных І. Афанасьеву, М. Скорыкава, В. Касенку, У. Кудрына...

**— Зусім нядаўна ў вашым калектыве былі Я. Паплаўская і А. Ціхановіч. Аркестр, відаць, нялёгка расставаўся з папулярным дуэтам?**

— У любым калектыве можа быць рух, бо працуюць тут жывыя людзі, якія самі вырашаюць, дзе ім працаваць лепш. Ціхановіч і Паплаўская пайшлі з аркестра, хоць і не было ў нас узаемных прэтэнзій. Хаваць тут няма чаго: у нас з'явіўся вялікі канкурэнт — кааператыўны рух. Вышэйшая заработная плата, якую можа атрымаць саліст дзяржаўнага аркестра, — 200 рублёў. Працуючы ў кааператыве, ён мае магчымасць зарабіць тысячу за адзін канцэрт. Як будзе далей — час пакажа.

**— Міхаіл Якаўлевіч, людзі з гадамі, за рэдкім выключэннем, страчваюць радасць ад змены ўражанняў. Вандроўкі, гастрольныя дарогі і гарады іх стамляюць, пачынае вабіць аседлае жыццё. У вашых музыкантаў такіх праблем не ўзнікала?**

— Па-першае, у нашым аркестры няма сёння людзей сталага веку. Самым старэйшым сорак гадоў, гэта ўзрост росквіту для творчай асобы, для музыканта. Па-другое, у нас няма людзей, для якіх аркестр — проста месца працы, куды трэба рэгулярна хадзіць, каб атрымліваць грошы. У нас людзі душою адданыя музыцы і сваёй справе. Яны атрымліваюць асалоду ад супольнай ігры. Па-трэцяе, кіраўніцтва аркестра стараецца стварыць максімальна камфортныя ўмовы для працы і адпачынку музыкантаў, бо ад самаадчування кожнага залежыць здароўе і жыццё ўсяго аркестра.

Нядаўна мы аддзяліліся ад філармоніі: у яе і так шмат «дзяцей» і шмат праблем, і ўсіх «дзяцей» аднолькава дбайна яна дагледзець не зможа. Мы набылі эканамічную самастойнасць і цяпер імкнёмся зрабіцца больш рэнтабельнымі і максімальна павярнуцца да патрэб чалавека, не толькі паўней скарыстоўваць музыканцкі патэнцыял, а і сацыяльна і маральна ахоўваць асобу. Хай не здасца гэта драбязою, але ў нас на рабоце ёсць халадзільнік, тэлевізар, відэамагнітафон, швейная машына. У бліжэйшай сацыяльнай праграме — паляпшэнне жыллёвых умоў музыкантаў; карыстанне за кошт аркестра лазняй, басейнам, спартыўным рыштункам; паляпшэнне абслугоўвання артыстаў пад час гастроляў; дапамога ў набыцці індывідуальнага аўтатранспарту...

**— А ўмовы для творчага самавыяўлення музыкантаў? У вас жа ёсць яркія індывідуальнасці, нават адзначаныя лаўрамі міжнародных фестываляў. Што калі некаму захочацца паўдзельнічаць у нейкім конкурсе ці сабраць суполку і памузіцыраваць незалежна ад аркестра, можа, нават, зрабіць запісы — гэта не будзе парушэннем вашай творчай дысцыпліны?**

— У нас такая колькасць разнастайных праграм і музыка настолькі размаітая ў стылёвых адносінах — і джаз, і поп-напрамкі, і эстрадная песня, і павевы самай новай музычнай моды — на ўсялякі густ! Так што нашы музыканты маюць магчымасць працаваць для душы і выяўляць сваю індывідуальнасць. Усе праграмы складаем калегіяльна, з улікам пажаданняў музыкантаў, якія хочуць іграць сола. Занятасць у аркестры вялікая, і ўсе новыя задумкі так ці інакш спалучаюцца з дзейнасцю калектыву. Напрыклад, мы ўсе ездзілі на міжнародны джазавы фестываль у Маскву, цяпер нас як лепшы біг-бэнд Еўропы запрасілі на фестываль у Югаславію. У складзе аркестра ёсць некалькі фарміраванняў са сваім прызначэннем. Напрыклад, інструментальны квінтэт рэгулярна ўдзельнічае ў падрыхтоўцы перадачы «Прэм'ера песні».

Дарэчы, з Дзяржтэлерадыё БССР супрацоўнічаем афіцыйна: там пакуль няма ні эстраднага аркестра, ні мабільнай акампануючай групы з сучасным інструментальным складам. Мы не толькі робім запісы, удзельнічаем у тэлепраграмах, але і выступаем у «жывым» эфіры, чаго не робяць музыканты ў іншых рэспубліках, прывыкшыя да фанаграмы на ТБ. Тое, што аркестр, створаны пад шыльдай Мінкульта, аказаўся карысным іншаму ведамству, эканамічна выгадна дзяржаве: не трэба ўкладаць сродкі ў стварэнне аналагічнага калектыву на радыё.

**— Запісы на радыё вы робіце добрасумленна, спраўна пішацеся на пласцінкі, праводзіце аўтарскія канцэрты кампазітараў, і не толькі беларускіх, удзельнічаеце ў фестывалях, шмат гастралюеце па рэспубліцы. Нядаўна вярнуліся з фестывалю савецкай песні ў Зялёнай Гуры, неўзабаве будуць гастролі ў Італіі, зноў Польшча, потым — канцэрт на з'ездзе кампазітараў Беларусі. А спакваля ўжо рыхтуецеся да другога Усесаюзнага фестывалю польскай песні ў Віцебску. Вас яшчэ прызначылі і мастацкім кіраўніком фестывалю...**

— Але, ведаеце, справа гонару аркестра — правесці і першы фестываль беларускай эстраднай музыкі і песні ў Мазыры. Праца на карысць культуры сваёй рэспублікі — аснова нашай дзейнасці.

**— А чытачы, між тым, не здагадваюцца, што Фінберг досыць свабодна гаворыць па-беларуску. І гэта, я ведаю, не даніна часу: колькі гадоў таму, калі і думкі не было пра дзяржаўнасць беларускай мовы, вы сяды-тады карысталіся ёю.**

— Няхай гэта нікога не здзіўляе. Я вучыўся ў Мазыры ў звычайнай школе, дзе беларуская мова была на роўных з іншымі навукамі. І гэта абсалютна нармальна. Беларусь — мая радзіма, з ёю звязаны мой лёс, значыць, і беларуская мова — гэта часцінка майго жыцця. Яна падабаецца мне, і заўсёды, калі выпадала, я спрабаваў размаўляць па-беларуску. Цяпер уводзім яе ў справаводства нашага аркестра, а яшчэ думаю, як наладзіць для музыкантаў штотыднёвыя заняткі па беларускай мове...

**— Ваша пазіцыя адчуваецца і ў рэпертуары. Пры ўсёй шырыні дырыжорскіх інтарэсаў на першым плане заўсёды музыка беларускіх кампазітараў.**

— Які ж я кіраўнік Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі, калі нацыянальны рэпертуар буду лічыць другарадным. З першых крокаў аркестр адчувае зацікаўленасць і падтрымку кампазітараў. І ў рэпертуары збіраецца ўжо ладны запас беларускай інструментальнай музыкі і песень больш чым дваццаці аўтараў. Сярод іх Я. Глебаў, І. Лучанок, Л. Захлеўны, В. Іваноў, Р. Сурус, А. Елісеенкаў, Ю. Семяняка, Д. Смольскі, Э. Зарыцкі, У. Буднік... Мы ўдзячны ўсім аўтарам, але ў рэпертуарны актыў уключаем толькі п'есы з элементамі навізны, цікавыя для сучаснага слухача. Недапушчальна нарошчваць нацыянальны рэпертуар толькі дзеля рапарту пра выкананне беларускай музыкі. Творчая неперабарлівасць у нацыянальным мастацтве можа абярнуцца яго дыскрэдытацыяй.

**— Аднак жа ў вашых беларускіх праграмах пераважаюць імёны кампазітараў, якія ніколі не мелі справу з партытурай біг-бэнда!**

— І што? Нашы музыканты — выдатныя аранжыроўшчыкі: А. Шпянёў, В. Далгоў, А. Архіпаў, А. Гілевіч, У. Ткачэнка, А. Гітгарц і інш. Не трэба тут кампазітарам саромецца. Аранжыроўшчык — зусім іншая, самастойная прафесія, якая вымагае і асаблівых схільнасцей. Таленавіты творца можа быць бяздарным аранжыроўшчыкам, таленавіты аранжыроўшчык можа аказацца пасрэдным кампазітарам...

А, між іншым, ведаеце наш маленькі сакрэт? Паводле бухгалтарскіх дакументаў назва калектыву — Дзяржаўны аркестр сімфанічнай і эстраднай музыкі. «Канцэртны» — гэта накшталт сцэнічнага псеўданіма. Бо, як ні дзіўна, бюракратычныя інструкцыямі не прадугледжана існаванне менавіта канцэртнага эстраднага калектыву. Не бывае такога — і ўсё. Але ж дваісты статус абавязвае нас да творчага пошуку не толькі ў асноўным жанравым накірунку. Ладзім індывідуальныя справаздачы, да якіх музыканты рыхтуюць камерны рэпертуар, выступаюць перад калектывам. (Зразумела, наколькі гэта спрыяе падтрыманню творчай формы, удасканаленню майстэрства, пашырэнню музычнай эрудыцыі). Яны выступаюць з самастойнымі камернымі праграмамі і перад публікай, прычым немалую ўвагу надаюць прапагандзе беларускай музыкі. Такім чынам і струннікі, для якіх у асноўным рэпертуары адведзена акампануючая роля, маюць магчымасць задаволіць свае творчыя патрэбы.

**— Каб яшчэ задавальняліся патрэбы тэхнічнай аснашчанасці аркестра...**

— Вядома! Нявырашанасць пытанняў нашага матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння шкодзіць вынікам агульнай работы, стрымлівае творчае развіццё. У многіх пытаннях мы адчуваем зычлівасць, падтрымку з боку ўрада рэспублікі, Мінкульта БССР, але не ўсё залежыць і ад іх. Пытанне з гукаўзмацняльнай апаратурай застаецца адкрытым, мы карыстаемся недабраякаснай тэхнікай і міжволі ашукваем людзей, якія купляюць білеты на нашы канцэрты. Бо яны не заўсёды атрымліваюць паўнацэнныя эстэтычныя ўражанні, ад таго, што эфект гучання ў розных пунктах залы неадэкватны, часам нават супрацьлеглы дасягнутаму на сцэне. Праз недасканалую апаратуру адбываецца грубае скажэнне гуку, балансу аркестравых груп.

Тэхнічная аснашчанасць музыкантаў дзяржаўнага аркестра, калі хочаце, — пытанне дзяржаўнае, палітычнае, і вырашэнне яго праз камісійны гандаль задавальняе нас толькі як вымушаная часовая мера. Канечне, дзякуючы закупкам праз «камісіёнку» мы змаглі працаваць, і пачатак быў нават усцешны. Але сёння, упэўнены, мы ўжо адсталі ад сучаснага тэхнічнага ўзроўню.

Справа тут не ў нейкім прафесійным снабізме. Справа ў тым, што нам трэба звяртацца да маладой публікі, сярод якой нямала ўладальнікаў новай імпартнай апаратуры. Як пераканаць слухачоў у вартасцях нашага мастацтва, у магічнай сіле жывога аркестравага гучання, калі кепская тэхніка проста дыскрэдытуе дзяржаўны калектыў, майстэрства яго высакакласных музыкантаў?

Я нічога не маю супраць року ў прынцыпе, асобныя яго элементы надаюць свежасць і нашым аранжыроўкам. Але чыстая рок-культура падаецца мне надта уніфікаванай, яна паўсюль і ва ўсіх аднолькавая. Іншая справа — аркестр на эстрадзе. Колькі добрай, нацыянальна размаітай музыкі пачуеш у нашым своеасаблівым, жыццярадасным жанры! Колькі добрых праменьчыкаў засвеціцца ў душах тых, хто навучыцца цаніць яе і слухаць!..

**— Міхаіл Якаўлевіч, дзякую вам за гутарку, спадзяюся, што мо і яна паспрые добрым зрухам і ў вашым аркестры, і ў цэлым на беларускай музычнай эстрадзе.**

С. БЕРАСЦЕНЬ.

*Тэатр*

# ШУКАЮ СЁННЯ ІНШАЙ СУТНАСЦІ

**«ЭМІГРАНТЫ» С. Мрожака на сцэне Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча ў Бабруйску**

Крыўдная прыхамаць лёсу: калі б свой дыпломны спектакль леташняя выпускніца БДТМІ Мар'я Пятроўская ставіла ў сталіцы і па-беларуску, дык ён бы (лепшы, горшы, безаблічны ці адметны) занатаваўся ў аналах беларускага тэатральнага мастацтва проста... аўтаматычна. А так... А так спектакль ідзе ў прысутнасці дзесяці гледачоў ды яшчэ невядома якім адміністрацыйным капрызам перанесены з малой сцэны на вялікую. Як угледзець, як разгледзець яго — без шматлікіх афіш і не ў сезон — няхай сабе і з мэтаю аднаўлення справядлівасці? Да самога пана Мрожака паставіліся з нашай старонцы несправядліва, залічыўшы ў абсурдысты — так ён дагэтуль і выдаецца за абсурдыста. Што ж. Непрадказальнасці і парадаксальнасці, зусім як у творах польскага драматурга, савецкай публіцы наканавана было паспытаць у жыцці. Мо таму і ўспрымаецца намі такім рэальным абсурд?..

Два чалавекі, два эмігранты. Сядзяць у цямрэчы вялікага склепа, мараць падзарабіць, лаюцца, сварацца, выкрываюць і падтрымліваюць адзін аднаго—інтэлігент і рабочы, эстэт і грубіян, самая вытанчанасць і самая непрыстойнасць. Просіцца параўнанне пра дзве палавінкі адной чалавечай душы, аднак яно не будзе дакладным. Сапраўды, пачуцці эмігрантаў X і У можна пераблытаць з іх адчуваннямі, настроі — з тэмпераментамі, а звягі з-за бляшанкі кансерваў і жаль па мінулым палічыць за рэжысёрскія ўстаноўкі пры стварэнні роляў. Але акцёры дакладна трымаюцца і драматургавай пабудовы, мо таму эміграцыя іх герояў здаецца, перш-наперш, уцёкамі ад самiх сябе? Мо таму небяспечная драпежная дзяржава, ад якой эмігранты ратаваліся ў замежжы, набыла абрысы бацькаўшчыны... Рэжысёрскаю воляю гэтая абставіна свядома перавернута дагары нагамі ці пераблытана — такім адмысловым чынам, што сам склеп міжволі падаецца нашым, айчынным, проста-такі тутэйшым склепам; размовы, гутаркі і сваркі («Чаму ты не вучыш мовы?» — «Стану я выломваць сабе язык!», «Пакуль ты (працаўнік.—Ж. Л.) — тупы вол, я (інтэлігент. — Ж. Л.) — свіння» і да т. п.) — нашымі штодзённымі, учынкі— таксама нашымі... няздзейснымі. Паводле рэжысёра М. Пятроўскай, X і У — гаротнікі, уцекачы, шукаюць паразумення з няблізкім светам у сваёй уласнай краіне; небыткуюцца пад сваім уласным дахам, зневажаюцца ў сваіх дзяржаўных межах... Кім? Адказаць на гэтае пытанне і проста, і складана, але з адказу, якім бы той ні быў, вынікае сумная выснова: дзяржава наша яшчэ не ёсць бацькаўшчына наша. Нават тады, калі яны, так бы мовіць, тэрытарыяльна супадаюць.

Акцёрскі дуэт А. Дваранніkава і А. Парфяновіча існуе ў гранічна нявыгадных сцэнічных умовах. Як на мой погляд, дык у добра прадуманы, але, так бы мовіць, не даведзены да ладу. Уявіце станок-рыштаванне, месцамі краўцістую падлогу, месцамі негабляваныя дошкі; уявіце каркасы фатэляў, на якія час ад часу вымушаны масціцца акцёры (акцэнт робіцца на побытавай неўладкаванасці іх герояў, якая спарадзіла раздражненне ў дачыненнях адзін да аднаго); заднік з комінамі і трубамі... па ідэі, хоць дзве-тры металічныя ламачыны ніяк не стасуюцца з задумай мастака спектакля. Між тым і паводле задумы рэжысёра стан жытла персанажаў супадае са станам іх свядомасці і думак, ды мастацкія цэхі не парупіліся выявіць гэта як мае быць.

А. Парфяновіч (У) дэманструе гледачам менавіта такога героя, пра якога персанаж X заўважае: сацыёлагі могуць ганарыцца ягонай выключнай сярэднестатыстычнасцю пад дэвізам: «абы грошы ды харч харошы». Да характару і грошай дадаюцца мроі пра будучы шацунак, будучае шчасце і самую будучыню, якая марудліва збіраецца прыйсці... Ды людзі столькі не жывуць.

А. Парфяновіч проста-такі бліскуча падае характарнасць свайго героя У — фарбамі камедыі і гратэску з трагічным дамешкам. Малюнак ролі завострany, акрэслены, дакладна-пазнавальны: неверагодная трывушчасць вязня ў доўгім вязенні (выраз У. Жылкі); упартасць трагідурня са здольнасцямі добрага блазна; хітрыкі дарослага дзіцяці; небяспечнасць вар'ята, раз'ятранага цяжэннай працаю. Так пакрысе выяўляецца абліччa «простага чалавека з народа», сляпога падымальшчыка рук на сходзе ці злоснага падпальшчыка інтэлігенцкай маёмасці. Ён брудны целам і ўжо нячысты душою. Прасцяк, з якога спытаецца, пэўна, толькі на судзе боскім. Ён гэтаю сваёй прастатой-прасцяцкасцю па-грамадску страшны ды па-чалавечы няшчасны... Акцёр яшчэ і яшчэ раз давёў сваю адметную характарную... універсальнасць, як ні парадаксальна гэта гучыць. З акцёра-пацяшальніка, якім бачылі яго многія рэжысёры, ён мае ўсе падставы прэтэндаваць на героя трагедыі (дастаткова згадаць ролі Андрэ Марці і Верхавенскага ў спектаклі М. Кавальчыка паводле п'есы М. Шатрова «Дыктатура сумлення»). Але ёсць і нагода для шкадавання з той прычыны, што трагічны дар Парфяновіча ўсё яшчэ застаецца незапатрабаваным уласным тэатрам. Уявіце, як парваныя шкарпэткі і разбітая бутэлька ў руках яго героя У выклікаюць на ўспамін цэлы свет незлічоных «маленькіх людзей», што, нагараваўшыся-набыўшыся «нічым», прагнулі стаць «усім» і мусілі вырашаць, якія сродкі больш прыдатныя для такой мэты. Але часцяком вырашалі за іх...

Хто вырашаў? Магчыма, нават і такія станоўча-рэвалюцыйныя іксы, як X акцёра А. Дваранніkава. Добра выхаваны (спалучае этыкет з чалавечай спагадлівасцю), ідэйна загартаваны (прагне волі, волі, волі), ён, відаць, пэўным часам жадаў сістэматызаваць сваё жыццё, ды ідэя волі перабіла імкненне да парадку. Яго адрынула дзяржава, ён, пераблытаўшы, быў адрынуў бацькаўшчыну. У выкананні А. Дваранніkава эмігрант X — узор савецкага чалавека эпохі застою. Ён уцякае думкамі, мроямі, памкненнямі — у эміграцыю. Эмігруе з маладосці ў сталасць. Мо і з жыцця ў нябыт пойдзе рашуча і да болю знаёма... Эмігрант духу паводле паэта. І пра такога лепш за ўсё сказана ў Жылкі: прывітаўшы час сваёй свядомасці, зразумеў, што жыццё толькі перабразгае і пойдзе, быццам цень. А воля палітычная — яшчэ не воля духу, не гармонія душы. Вобраз X разаўецца на глядацкіх вачах: «Дзе шукаў адно няпэўнасці, шукаю сёння іншай сутнасці». Герою А. Дваранніkава знайсці яе не дадзена. Людзі, паўтаруся, столькі не жывуць. Наступнікі не зразумеюць яго спакутаванай бессмяротнай душы — крыху подлай, трохі літасцівай, папляжанай кампрамісамі і стомленай блуканнямі ў пошуках волі. Шукала ды... абшукалася. Ці такія, як X, што спалучылі ў сабе летуценнасць з цынізмам, сардэчнасць з жалезнаю воляю, баязлівасць з самаадданасцю, і ёсць грамадзяне свету? Акцёр у ролі X тактоўна заўважае, што і грамадзян свету без бацькаўшчыны не бывае...

Дапускаю, што «афарбоўка» чалавечых стасункаў персанажаў Мрожака магла б значна ўзбагаціць выяўленчы бок спектакля, калі б М. Пятроўская звярнулася да вышукаў Фрэйда ці Вейнінгера. Ды асабіста мне, па шчырасці, цікавей іншае: як пачатку Пятроўская пазбегнула просталінейнага развешвання па героях Мрожака сучасных палітычных цэтлікаў і пазначак, выявіўшы, як мы, сучаснікі-беларусы, пачуваемся эмігрантамі ва ўласнай дзяржаве?

Мяркую, вельмі сучасна гучыць і другая думка яе спектакля: як бы ні прымнажалася, ні павялічвалася дзяржава, бацькаўшчына ўсё-ткі адна...

**Жанна ЛАШКЕВІЧ.**

# КАШМАР

(Пачатак на стар. 8).

прастойвалі доўгія паўкіламетровыя чэргі. «Ці будзе сёння хлеб?» — спыталася наіўная старэнькая. Ніхто ёй не адказаў.

Банды ўзброеных падлеткаў на матацыклах — добраахвотныя памочнікі арміі — тэрарызавалі насельніцтва.

Спраўдзілася мара Дубасава — кааператывы і арэнда былі забаронены. Астранамічна падскочылі цэны нават на гнілыя, недабраякасныя тавары і прадукты. За пачак масла можна было выменяць халадзільнік.

Дамы не ацяпляліся. Не было вады ў водаправодзе. «Нічога, — уздыхнуў Дубасаў, — у вайну бачылі і горшае».

Тым не менш тон газеты «Устав» быў нязменна бадзёры, аптымістычны.

Граніцы не вартаваліся, але ніхто не нападаў — знішчаць самі сябе! У мэтах узняцця баявога духу, кіруючыся прынцыпамі інтэрнацыяналізму, генералы старанна шукалі на карце, куды б рушыць абмежаваны кантынгент.

Група інтэлектуалаў, у тым ліку некалькі акадэмікаў, звярнулася са зняволення да Дылава, вярхоўнага галоўнакамандуючага, з просьбай перагледзець генеральны курс. «Не! — ударны, зашораны ідэалагічнымі догмамі фанатык грукнуў кулаком па стале. — Да светлай будучыні — у імя чалавека — да канца!» Слова «дыктатор» на рускай мове загадаў пісаць з мяккім знакам. Як «сударь». Беларускай мове пашанцавала — ён яе не ведаў.

Дубасаў убачыў, як хаваліся ў каналізацыйным калодзежы тыя, хто распускаў язык на дачы, на дні нараджэння Валянціны. Так вам і трэба! Седзячы ў цёмных трубах, ініцыятары перабудовы, якія засталіся жывымі, па-рознаму ацэньвалі сваю ролю ў тым, што адбылося, задаваліся пытаннем — ці можна было прадухіліць? Якая мера іх віны?

Вецер гнаў снег сярод голых дрэў. Холад, змрок, здранцвенне. Над царствам вечнай мерзлаты ўзвышалася гіганцкая фігура Сталіна, Кінг-Коба, як называў яе адзін з катаржанаў. Ля яе падножжа зводны хор лагернікаў, замярзаючы, спяваў велічальную правадыру народаў.

Сярод іх Дубасаў убачыў сына і ўнука.

«Праўда, што ён жывы?» — спытаўся сын. «Хто?» — перапытаў унук. «Правадыр». «Цьфу! Ведаеш, колькі яму было б гадоў?» «Не мае значэння, — з надзеяй сказаў старэйшы. — Кажуць, бачылі! Падыдзе, закурыць люльку, ласкава запытаецца: «Як жывяце, таварышы?» Паслухае і далей. «А хто ж памёр у пяцьдзесят трэцім?» «Двайнік. Ён прыйдзе, месія!» «Ты звар'яцеў!»

Тысячатонная нага паволі ўзнялася і прыдавіла зняволеных.

З ляскам і скрыгатаннем няўклюдны ідал крочыў па краіне...

Дубасаў прачнуўся ў халодным поце, расцёр здранцвелую руку, агледзеўся. Падышоў да стала. Гарэлкі ў бутэльцы не было. Колькі разоў даваў сабе слова не дапіваць да дна... Цяпер мучайся, да дзвюх гадзін, каб яны спрахлі, гэтыя новыя парадкі.

Ён хадзіў па пакоі і спрабаваў асэнсаваць сон.

— Пачыналі так добра...
— Памаўчаўшы, ажывіўся:
— Стоп! Гэта трэба рабіць інакш!.. Але хто? Хто?!

За акном у марознай цішыні хтосьці разаграваў матор.

# БОЛЬ МАЁЙ ЗЯМЛІ

(Пачатак на стар. 3).

Чарнобыльская бяда непасрэдна закранула сельскую гаспадарку. Для падтрымання жывёлагадоўлі і раслінаводства ў раёне пераворваюцца палі, незалежна ад колькасці кюры на квадратны кіламетр, выкарыстоўваюцца здабыткі сучаснай хіміі згодна прынятым інтэнсіўным тэхналогіям. Мінеральных угнаенняў па рэкамендацыях былога Мінсельгаса СССР, пацверджаных пазней загадам старшыні Дзяржаграпрома СССР, уносіцца як мага больш, з запасам. Мэта: за кошт павышэння ўраджайнасці, ужывання калію, кальцыю, фосфару, азоту «растварыць» радыенукліды ў большай колькасці прадукцыі, стварыць умовы, пры якіх расліны самі абмяжоўвалі б пранікненне ў іх ізатопаў. Але тут свае праблемы. Яны не новыя і выцякаюць з агульнага заняпаду вёскі. Апошнім часам палепшылася культура працы, але ўсё роўна яе ўзровень пакідае жадаць лепшага. Нявырашанай праблемай для краснапольскіх гаспадарак застаюцца спецыялісты. Іх мала, едуць сюды з неахвотай, або зусім не едуць. Краснаполле набыло сумную вядомасць далёка за яго межамі. «Вас яшчэ не выселілі?» — здзіўлена дапытваўся старшыня калгаса пад Кіевам у рабочага саўгаса «Краснапольскі», які дапяў да тых мясцін у пошуках жылля і працы. Нізку сушаных грыбоў у Маскве, куды бабуля-краснапальчанка павезла іх на продаж, шпурнулі прэч, нават не папытаўшыся, дзе, якой вобласці-краю тое Краснаполле.

Як бы там ні было, а краснапольскія гаспадаркі прадукцыю прадаюць з пэўнай ступенню забруджанасці. Крычаўскі мясакамбінат вяртае «радыеактыўную» жывёлу на ачышчэнне. У мінулыя гады, каб асабліва не важдацца, не марнаваць сродкі, «брудных» бычкоў адразу везлі ў Рослаўль, на Смаленшчыну, на мясакамбінат і там здавалі без турбот: камбінату патрэбен план. «Брудных» бычкоў належыць, па рэкамендацыях, даглядаць у «чыстай» зоне, на «чыстых» кармах. Пра рэкамендацыі Дзяржаграпром паклапаціўся. «Чыстых» кармоў няма адкуль узяць. «Брудныя» бычкі абмываюцца вадой з мылам і праз нейкі кароткі час вязуцца назад у Крычаў. І непрыкметна выраўноўваюцца шанцы між краснапальчанамі, да прыкладу, і гродзенцамі. Хіба што з адтэрміноўкай у часе. У гэтым сэнсе Краснаполле не ў адзіноце.

Гаспадаркі, наколькі магчыма, прытрымліваюцца рэкамендацый. Ды тут свае «але». Гэта і дзяржаўны заказ-план продажу прадукцыі, і састарэлая, недасканалая матэрыяльная база, неўпарадкаванасць умоў працы людзей. Кіраўнікам і спецыялістам трэба нямала траціць часу на пошукі даярак, даглядчыкаў жывёлы, затыкаць «дзіркі», прабітыя яшчэ да Чарнобыля. А калі сюды далучыць п'янства, абыякавасць, спекуляцыю на цяжкасцях — стане зразумелым, як усё ўзятае разам ускладняе выкананне рэкамендацый.

З севазвароту ў зонах выключана і аддадзена пад лес амаль 4000 га сельгасугоддзяў. Так або інакш з часткі іх пакуль здымаецца ўраджай. Ці злачынства гэта? Хутчэй — даніна абмежаванасці. Спісанне зямель не падмацоўваецца ссяленнем вёсак, зменай планаў продажу прадукцыі, структуры сяўбы культур і наогул — напрамку дзейнасці гаспадаркі. Ім жа трэба жыць, забяспечваць сваіх членаў усім неабходным, у тым ліку і працай.

Для лячэння параненай зямлі рабілася нямала. З вясны да восені ў раёне працавалі шматлікія атрады практычна з усяе рэспублікі па вапнаванні, меліярацыі зямель. Унесены тысячы тон цэаліта, даламітавай мукі на палі, сенажаці, сядзібы. Праведзена нямала раённых і абласных семінараў па дэзактывацыі зямель і вытворчасці «чыстых» малака, мяса, бульбы... Упершыню такія заняткі адбыліся 12 мая 1986 г. Праз два тыдні паступіла тэлеграма аб выпадзенні радыеактыўных рэчываў у раёне. У ёй запатрабавалася забіць дошкамі і поліэтыленавай плёнкай студні, забаранялася піць малако, закупляць яго і здаваць на маслазавод.

7 ліпеня на семінары ў Высокім Барку — цэнтры саўгаса «Краснапольскі» — А. Яновіч, на той час старшыня аблвыканкома, уласнаручна паказваў, як з 2 млр/гадз. рабіць 0,7—0,8 млр/гадз. Усяго толькі і трэба: звычайнай рыдлёўкай зрэзаць радыеактыўны дзёран і перакуліць яго «тварам» уніз.

Многія сотні гектараў былі «перакулены» такім вось чынам. Дзякуючы гэтай самаўпэўненасці цяжар неабвешчанага радыеактыўнага забруджання зведалі жыхары Бабруйска і Гродна, Магілёва і Віцебска...

Як не дзіўна, але чарнобыльскія воблакі ў большасці аселі на нізкарэнтабельных, стратных гаспадарках, на малалюдных лясістых і балоцістых землях Гомельшчыны, Магілёўшчыны, Браншчыны.

Акалічнасці, з-за якіх у 70—80-я гады моладзь пакідала вёску, падмацаваныя Чарнобылем, адток людзей павялічылі. І, можа, з'язджалі не толькі і не столькі ад радыяцыі, колькі ад сацыяльнай прымітыўнасці ўмоў жыцця — сапраўднай чумы вёскі канца другога тысячагоддзя. Сотні заяў кла́ліся на сталы кіраўнікоў гаспадарак. «Пераконвайце, затрымлівайце, прасіце», — раілі ім супрацоўнікі савецкіх і партыйных органаў. Адказам на заявы, увасабленнем парад сталі прапагандысцкія групы, камісіі з Магілёва, Мінска, Масквы. Адны ехалі, абы адзначыць квіток камандзіроўкі, другія — бо паслалі. Але ніхто — з жаданнем на справе паспрыяць людзям. «Вас не выселілі? Як маглі застацца тут цяжарныя і дзеці?!» — здзіўляліся спецыялісты з Масквы ў 1986 годзе. Абследавалі нейкую частку людзей і паехалі, даслаўшы неўзабаве вынікі даследаванняў, змешчаныя на палове старонкі сшытка, напісаныя неахайна, неразборліва.

Камісіі ў першыя месяцы былі, як правіла, негаваркія, насцярожаныя, з прыпасамі «чыстых» харчоў і «чыстай» пітной вады ў тэрмасах. Яны выяўлялі здзеклівую двухбаковасць ведання: богу — богава, кесару — кесарава. І прыўнеслі больш сумятні, чым карысці. Людзі, наяве пабачыўшы чырвонага колеру налёт радыеактыўнага ёду на гародах, спазнаўшы дазіметры ўжо не па кніжках грамадзянскай абароны, зведаўшы паспешлівае непрывычна халоднае датыканне «пятачкоў» датчыкаў да шыі недзе ля шчытападобнай залозы, людзі, якім бракавала пэўнасці з-за забаронаў піць і есці адвечна прывычнае, дамашняе, каму ў першы год паспрабавалі завезці «чыстае» сена і «чыстую» салому з «чыстых» рэгіёнаў, якія пазбыліся свойскай жывёлы і зведалі шчадроты дзяржаўнага гандлю і якіх падзялілі на «чыстых» і «брудных» грашыма даплат, —гэтыя людзі не паверылі перакананням, сцвярджэнням «чыстых» камісій. У той год і пасля яго з раёна выехала звыш пяці тысяч чалавек. Камуністы пакідалі ў райкоме партбілеты, беспартыйныя прымушаны былі хадзіць па кабінетах, дамагаючыся дазволу на звальненне, выезд.

Асэнсоўваючы нядаўняе мінулае, міжволі думаеш, што радыеактыўнае забруджанне ў раёне калі не ўтойвалася, то скажалася знарок, клалася празмерным цяжарам на саюзны, рэспубліканскі бюджэты і, як вынік, на ўзровень жыцця людзей. Магчыма, мела месца звычайнае няведанне, непісьменнасць; магчыма, «вярхі» атрымалі меркаванні кан'юнктурныя, заснаваныя на асабістай, але не на дзяржаўнай, не народнай выгодзе. Усе сумненні ў неабходнасці тых або іншых захадаў па дэзактывацыі ацэньваліся як баязлівасць, панікёрства, нежаданне працаваць. Людзей адорвалі вывадамі аб бяспецы радыяцыі, суцяшалі надзеямі, што вясной змыецца, летам — выцягнецца раслінамі, выпарыцца.

Асноўныя сельскагаспадарчыя фонды раёна ацэньваліся ў 1986 г. у 71 мільён рублёў. На ліквідацыю вынікаў аварыі выдаткавана звыш ста мільёнаў рублёў.

Ці будзе калі канец марнатраўству? На другое лета пасля аварыі высветлілася, што дэзактывацыя ідзе ў вёсках, прызначаных пад ссяленне, што, нягледзячы на ўсе захады, людзі набіраюць бэраў больш, чым разлічана вучонымі, што ўпарта не вяртаюцца звыклыя стасункі з прыродай, зямлёй, жывёлай. Краснапольскія гаспадаркі не пахваляцца новымі фермамі, высокамеханізаванымі збожжатокамі, зручнымі ва ўсіх адносінах машыннымі дварамі, сучасным жыллём — усім, што па-свойму абараніла б чалавека ад радыенуклідаў. Практыка шматмільённых выдаткаў няправільная, непрадуманая і патрабуе перагляду. Прыкладаў таму дастаткова. Гэта і пасёлкі, пабудаваныя непасрэдна ля зон жорсткага кантролю, адкуль трэба б ратаваць людзей, гэта і «магільнікі» коштам у некалькі сот тысяч рублёў ля вёсак, гэта і практыка штаба па ліквідацыі вынікаў, калі ў Краснаполле з'язджаліся дзесяткі аўтамашын з розных устаноў...

У 1987-м годзе ўрадам краіны было вырашана выселіць людзей з вёсак, дзе ўзровень радыяцыі вышэй за 40 кюры на квадратны кіламетр. Але Магілёўскі аблвыканком меркаваў інакш. На падставе яго прапановы ўрад рэспублікі ў жніўні таго ж года прыняў рашэнне аб мэтазгоднасці высялення пры радыяцыі вышэй... 80 кюры.

Заявы аб звальненні ўсё паступаюць. Уласна кажучы, якую альтэрнатыву кіраўнікі гаспадарак, раёна маглі прапанаваць і ў 1986 і ў 1989 гг. тым, хто выязджае? У 1986 г. мой калгас пачынаў будаваць дзіцячы сад, сталовую, рэканструяваў фермы, будаваў жыллё, магазіны. І праз тры гады пытанні бяспекі да канца не вырашаны. Незразумела: будуем, перарабляем вялікія дарогі на большыя, а пад'ехаць па-людску да фермы, заасфальтаваць дзіцячы сад, машынны двор — праблема. Хто кіруе гэтай справай? Ці не пра іх першы сакратар райкома партыі І. Ціцянкоў сказаў на пленуме райкома: «Нам ставят бюрократические препоны министерства, ведомства, а отдельные высокопоставленные лица уклоняются от решения вопросов»? Ці не гэтыя асобы накіроўваюць сродкі, выдаткаваныя для радыеактыўных раёнаў на аб'екты Магілёва, Кіраўска, Горак?.. «Чыстых» раёнаў.

Здзяйсненнем клопату пра механізатара стаў выпуск трактароў з герметычнай кабінай на Мінскім трактарным заводзе. Але якую бюракратычную трываласць трэба мець, каб прымусіць чакаць такіх машын тры гады! Мой калгас атрымаў адзін трактар, раён — чатыры. На некалькі соцень машын асобна завезена некалькі дзесяткаў герметычных кабін. Гаварыць аб істотным абнаўленні матэрыяльных фондаў нельга. З 18 трактароў МТЗ, што ёсць у калгасе, 13 адпрацавалі 5 і больш гадоў. Кармы нарыхтоўваем гомсельмашаўскім КСК-100 — недасканалым, працаёмкім, шумным і ненадзейным у рабоце. Механізатар прымушаны і лезці пад яго, і поўзаць на каленцах, махнуўшы на ўсе патрабаванні бяспекі, і несці дамоў дадатковую колькасць радыеактыўнага пылу.

Аб радыяцыі не забылі. Вывучаецца становішча. Звесткі спецыялістаў-краснапальчан недзе абагульняюцца, але вынікі абагульненняў асядаюць у кабінетах, у сейфах. Зваротнай, на ўвесь голас, сувязі няма. Краснапальчан вывучаюць. На трываласць.

Роля паддоследных — не лепшая ў гэтым свеце. Неафіцыйна існуе безліч чутак, ім вераць. Чуткі вызначаюць настрой людзей, спаталяюць прагу ўбачыць, усвядоміць уласную будучыню, паверыць у яе. Веры няма. Будучыня неакрэслена. Аб песімізм, як аб мураванкусцяну, разбіваюцца довады айчынных вучоных і пасланцоў з-за мяжы. «Што яны маглі сказаць добрага? Ім за кожнае слова валютай заплачана», — так або прыкладна так ацэньвалі словы гасцей жыхары зоны, якія так і не атрымалі адказу на самыя галоўныя пытанні.

Бацькі мяркуюць аб аслабленні імунных сіл арганізма па ўласных дзецях: яны хварэюць больш, часцей. Упарта жывуць непацверджаныя спецыялістамі размовы аб пагаршэнні аналізаў крыві. Моўны запас людзей узбагачаецца медыцынскімі тэрмінамі: анемія, гіперблазія, лейкемія... Кожны выпадак адхілення ад звычайнага звязваецца з радыяцыяй. Маленькая двухгадовая дзяўчынка, што адстала ў развіцці ад аднагодкаў, — нагода для горкага роздуму. Мама дзяўчынкі, маладая, прыгожая і разумная жанчына, з сумам гаворыць пра малако, грыбы, ягады, якія былі такімі смачнымі пад час цяжарнасці і пасля, калі карміла дачку грудзьмі. На першы погляд здаецца: усё, што адбылося з невінаватым чалавечкам, цалкам адпавядае інструкцыі Міністэрства аховы здароўя СССР за 29 кастрычніка 1986 г. па дыспансерным назіранні і лячэнні цяжарных і немаўлят.

Дэталёвае абследаванне дзяўчынкі ў Аксакаўшчыне пад Мінскам дае станоўчыя вынікі.

Мама, спакутаваная, нагледзеўшыся ў Аксакаўшчыне на хворых дзяцей з Гомельшчыны, вязе дамоў роспач. Пачуццямі сваімі дзеліцца з таварышкамі.

У кожнай сям'і насцярога — які рахунак запатрабуюць праз гады дачка, сын? Ці не папракнуць: што ж вы, бацька-маці?..

Ці не прысутнічае тут раўнадушнасць, увасабленнем якой могуць паслужыць словы Ільфа і Пятрова: «Спасение утопающих — дело рук самих утопающих»? Ці не азначае гэта, што наспела неабходнасць на дзяржаўным узроўні адкласці маштабныя праграмы і заняцца радыеактыўнымі тэрыторыямі? І так, каб плён быў адразу. Без раскачак на вывучэнне, без казуістыкі. Дзяржпланавая, без доўгатэрміновых праграм, канец якіх знікае ў у пяцігодках.

«Промедление смерти подобно».

Не трэба забываць: краснапальчане разам з сотнямі тысяч іншых суайчыннікаў штодня, усе дваццаць чатыры гадзіны ўдыхваюць, спажываюць з ежай, бяруць рукамі і топчуць нагамі цэзій і стронцый, калі толькі не ўсю табліцу элементаў Мендзялеева.

Незразумела, як, чаму, дзеля каго дзяржава, зладжаная сістэма, раптам схібіла, не заўважыла галоўны пралік: бяздзейнасць прававога механізму абароны самой сябе і сваіх шматмільённых радавых членаў ад валакіты, ведамаснасці, бюракратыі, пагарды спецыялістаў ад трактарабудавання і ядзернай энергетыкі, фізікі і хіміі, медыцыны?.. Ад няпамятлівасці і пустаслоўя. У 1986 г. аб Чарнобылі сказана, як аб нацыянальнай катастрофе. І многае ўжо тады можна было б прадухіліць, абараніць людзей з дастаткова высокай гарантыяй ад небяспекі. Утойванне інфармацыі аб радыеактыўнасці, недагаворкі і таемнасць над тым, што адбываецца, скасцянелая і бескарысная аднастайнасць мерапрыемстваў па дэзактывацыі, падман вяртаюцца бумерангам і нараджаюць пачуцці безвыходнасці. Бяздумна, з тупой раўнадушнасцю памалу співаюцца механізатары, азлобіўшыся на ўвесь свет. Пусцеюць фермы. Неўзабаве салдатам давядзецца і даіць, і пасвіць кароў.

Няўжо некаму яно патрэбна, нявер'е ў саміх сябе, у сілу маралі сацыялістычнага грамадства?

А хіба, уласна, не было такога? Ці мала было знесена вёсак неперспектыўных, абмежаванага развіцця? Волыт забыцця людскіх патрэб ёсць адкуль чэрпаць.

Няхай мы, як ні непрыемна тое, пакуль заложнікі навукі. Але ўдвая непрыемна, калі папракаюць нашым хлебам, малаком, калі з нас робяць пудзіла, якое да таго ж трэба шкадаваць. Як мне здаецца, у Чарнобылі вінаваты не толькі той, хто парушаў інструкцыю, але і той, хто ціха-мірна спачываў на лаўрах развітога сацыялізму, вітаў яго бацькоў, апладзіраваў перамогам, ахоўваючы непахіснасць і спакой свайго месца, раўнадушна сузіраў ланцуг АЭС ад Крыма да Літвы.

Чарнобыль трагічны, але і разумны па-свойму. Гэта не блюзнерства над ахвярамі. Ён проста аддаў нам належнае, падкрэсліў банкруцтва нашых раней святых догмаў, запатрабаваў пераасэнсавання каштоўнасцяў. Запатрабаваў платы.

І не хацелася б мне, каб у маіх нататках убачылі крытыку або крытыканства. Хоць, згодзен, аднабаковасць ёсць, яна абцяжарвае думкі, свядомасць. Але не хочацца думаць аб роднай зямлі як аб нечым асуджаным. Больш веры ў сацыяльнае і духоўнае здароўе нашай маралі, якая так цяжка нараджалася, гінула і адраджаецца зноў, нягледзячы на перашкоды.

А дзе небяспечна людзям — трэба выселіць іх. Не абяднелі беларусы на гасціннасць, шчодрасць. Няхай кожны калгас, завод, фабрыка дзеля будучыні нацыі возьмуць сем'і з Краснаполля, Брагіна...

Запрашаю ў Краснаполле! Убачыць сказанае, пачуць ад людзей у душэўнай размове іх бядоты і радасці, іх сумненні і боль, адчуць і перадаць свету іх імкненне да жыцця.

# ХВАЛЯВАННІ ДЗЯДЗЬКІ ТОМАША

Ігнат ДУБРОЎСКІ

●

Наш погляд на з'явы забруджвання прыроды гноевымі сцёкамі з комплексаў у нейкай меры рэтраспектыўны. Можа стварыцца ўражанне, што мы згусцілі фарбы, намалявалі знарок змрочную карціну, узяўшы звесткі за некалькі гадоў. Не, гэта не так. Рэтраспекцыяй мы імкнуліся паказаць, што гэта з'ява не эпізадычная, а доўгачасовая, хранічная, якая склалася ў сістэму. Наадварот, мы намалявалі вельмі бледную карціну. На справе пагроза забруджвання прыроды — водаў, глебы, раслін — нітратамі, утварэнню якіх спрыяюць сцёкі і вадкі гной жывёлагадоўчых комплексаў, куды больш небяспечная, чым нам удалося паказаць. Нам не ставала ні часу, ні сілы, каб раскрыць усю карціну.

У доказ, што мы не згусцілі фарбы, спашлёмся на звесткі Дзяржкампрыроды БССР. За адзін толькі 1988 год было аштрафавана і прыцягнута да адміністрацыйнага пакарання 1962 кіраўнікі і спецыялісты сельскай гаспадаркі за спуск сцёкаў у вадаёмы, забруджванне рэк і глебы змывамі ядахімікатаў і мінеральных угнаенняў. Такія маштабы забруджвання прыроды не могуць не ўсхваляваць не толькі дзядзьку Томаша, але і кожнага добрасумленнага грамадзяніна.

**Калі абагульняць, то выяўляецца такая карціна. Усе нашы дробныя і буйныя рэкі, з крыштальна чыстай вадой, наша багацце і наш нацыянальны гонар, прыгажосць нашага роднага краю, рэкі, апетыя вялікімі песнярамі беларускага народа *Янкам Купалам* і *Якубам Коласам*, — Нёман, Дняпро, Заходняя Дзвіна, Прыпяць, Вілія, Бярэзіна, Ясельда і іншыя паступова забруджваюцца гноевымі сцёкамі з гіганцкіх жывёлагадоўчых комплексаў, у дадатак яшчэ і змывамі мінеральных угнаенняў і пестыцыдаў, якія не столькі ў непамернай колькасці, колькі няўмела, нядбайна, бяздумна ўносяцца ў глебу і неахайна захоўваюцца на складах.**

**Атручваюцца тым жа спосабам нядбайнага гаспадарання і нашы цудоўныя азёры — Нарач, Мястра, Лукомскае, Свір, Чырвонае (Князь-возера), Выганаўскае, Браслаўскія азёры і іншыя. Такі ж лёс спасцігае і Мінскае мора, Вілейскае, Салігорскае, Любанскае штучныя азёры.**

**З гэтым злом — забруджваннем прыроды, якому па словах вядомага вучонага члена-карэспандэнта АН СССР А. Яблакава няма канца, вядзецца барацьба, але няроўных сіл. За чысціню Прыроды змагаюцца пакуль слабыя сілы грамадскасці і яшчэ слабейшыя — Камітэта аховы прыроды, пераўтворанага ў Дзяржаўны камітэт па ахове прыроды (Дзяржкампрыроды). У час дзеяння Камітэта ахова прыроды была разасяроджана па розных ведамствах. За ахову паветра адказвала гідраметэаслужба, за ахову лесу — Міністэрства лясной гаспадаркі, за глебы — Дзяржаграпром і г. д. Цяпер ахова ўсіх непадзельных складаных прыроды перададзена Дзяржаўнаму камітэту. Трэба спадзявацца, што сілы, якія змагаюцца за захаванне чысціні прыроднага асяроддзя, будуць узмацняцца.**

**Змаганне за чысціню прыроды набывае іншы раз пачварныя формы. У саўгасе-камбінаце «Белавежскі» нам паказалі яшчэ новыя паламаныя палівальныя машыны «Валжанка». Іх паламаў уначы хтосьці з мясцовых жыхароў, каб пазбавіцца ад распылення вадкага гною, кропелькі якога забруджваюць навакольныя вёскі. Гэта быў не першы і не адзіны выпадак. Васіль Кузьміч назваў гэта варварствам, крымінальным злачынствам, за што трэба вінаватых судзіць. Тамаш Макаравіч згадзіўся, што гэта не метад барацьбы, і за гэта варта караць. А з другога боку — гэта, на яго думку, самаахова безабароннага насельніцтва. Форма пратэсту, спосаб звярнуць увагу адпаведных улад на сваё становішча, напомніць пра сябе. Мясцовыя жыхары дзесяткі разоў звярталіся ў розныя ўстановы розных узроўняў, ад раёна і да Масквы.**

**На Белавежскі комплекс прыязджала, як нам сказалі, ці то 35, ці то 38 камісій, каб палепшыць з экалогіяй, але нічога не змаглі рашыць. Могуць прыехаць яшчэ сто камісій, але і яны не змогуць, па перакананні Тамаша Макаравіча, даць рады, бо падобныя комплексы — высокая канцэнтрацыя свінапагалоўя і тэхналогія ўтрымання і кармлення — супроцьпрыродныя. Прырода, экалагічныя ўмовы не вытрымліваюць такой нагрузкі. Ён уносіць радыкальную прапанову: расфарміраваць комплекс на 15 сярэдніх, па 6—8—10 тысяч свіней на кожным, і размясціць іх па калгасах і саўгасах. А ў будынках комплексу наладзіць вытворчасць якой-небудзь прамысловай прадукцыі. Тамаш Макаравіч не жартуе.**

**Ёсць інерцыйныя сілы, якія воляй ці няволяй супроцьстаяць захаванню чысціні прыроды. Гэта нядбайныя гаспадарнікі, кіраўнікі многіх калгасаў, саўгасаў, прадпрыемстваў аграпрамтэхнікі, аграхіміі, прамысловых прадпрыемстваў, кіраўнікі сістэмы Дзяржаграпрома, планавых органаў і праектных арганізацый, якія плануюць канцэнтрацыю вытворчасці ў памерах, неадпаведных умовам прыроды, размяшчаюць іх без уліку прыроднага наваколля.**

Перамагчы гэту інерцыйную сілу толькі штрафамі і пакараннямі нельга. Патрэбна актыўная, сталая крытыка. Разам з гэтым важна як мага шырэй разгортваць экалагічную адукацыю, экалагічнае выхаванне ў першую чаргу — сродкамі масавай інфармацыі. Неабходна экалагічна выхоўваць увесь народ, але ў першую чаргу кіраўнікоў і спецыялістаў гаспадарак, прадпрыемстваў, ведамстваў.

Увесь час нашай ажыўленай гутаркі пасля расказа Гляка пра вавілонскія падзеі Касцючок маўчаў, не прамовіў ні слова. Я спытаў Васіля Кузьміча, як ён ставіцца да непарыўнай еднасці жывёлагадоўлі і зямлі. Ён упарта, з-пад ілба, моўчкі зірнуў на мяне і адказаў:

— Найлепшы спосаб дасягнуць гэтага адзінства — зрабіць так, як рабіў селянін: вяроўку на рогі і прывязаць карову за кол.

Мяне здзівіў кплівы адказ Касцючка, чалавека сухой натуры, не схільнага да гумару. Памаўчаўшы, ён разважаў:

— Непарушнасць... Адзінства... Гіганцкія комплексы... Трэба разумець сітуацыю, якая складваецца ў сельскай гаспадарцы. З гэтай сітуацыі не вырвешся. Скарыстоўвай. Вось вы супроць гігантаманіі, а чаму ж вы захапляецеся эксперыментам у калгасе «Чырвоны сцяг»? У гэтай гаспадарцы каля 20 тысяч гектараў зямлі. Гэта не гігантаманія?

Касцючок нагадаў пра эксперымент па стварэнні аптымальнай гаспадаркі ва ўмовах НТР і карэннай перабудовы сельскагаспадарчай вытворчасці. Ажыццяўляецца гэты эксперымент у калгасе «Чырвоны сцяг» Валожынскага раёна пад кіраўніцтвам старшыні калгаса, доктара эканамічных навук Сямёна Георгіевіча Шарэцкага. Аб праграме і вопыце Шарэцкага ў нас было нямала гутарак.

Шарэцкі ўзяў за аснову тэорыю оптымуму вядомага савецкага прафесара-эканаміста А. В. Чаянава, але перапрацаваў яе, прывёў у адпаведнасць з сучасным узроўнем развіцця вытворчых сіл сельскай гаспадаркі. Сутнасць тэорыі оптымуму ў вызначэнні такіх памераў і такога спалучэння сельскагаспадарчых і прамысловых галін, каб вытворчасць прадукцыі кожнай галіны ў гаспадарцы дасягала найніжэйшага сабекошту, а значыць і найвышэйшай эфектыўнасці.

У калгасе «Чырвоны сцяг» будуецца свой кармавы завод, завод па рамонце машын і аднаўленню дэталей, дзейнічае свой асфальтавы завод, тры дрэваапрацоўчыя цэхі, пачынаецца будаўніцтва цэхаў перапрацоўкі жывёлагадоўчай прадукцыі, частка якой будзе прадавацца па дзяржаўных цэнах калгаснікам і сельскай інтэлігенцыі, а частка на рынку. Мяркуецца будаўніцтва завода па перапрацоўцы бульбы, а з часам і завода перапрацоўкі лёну і іншых прадпрыемстваў.

Каб дасягнуць пэўных прапорцый — забеспячэнне ўнутрыгаспадарчых заводаў сваёй уласнай сыравінай, — спатрэбілася не менш 16—18 тысяч гектараў зямлі. Дзеля гэтага былі аб'яднаны чатыры сумежныя гаспадаркі. Унутры гаспадаркі створаны чатыры вытворчыя ўчасткі — былыя калгасы. На ўчастках дзейнічаюць брыгады, фермы, комплексы. Канцэнтрацыя пагалоўя жывёлы на адным комплексе ці ферме не будзе перавышаць 200—400 кароў, 1—2 тысячы адкормачнага пагалоўя буйной рагатай жывёлы, 6—8—10 тысяч свіней, ужо дзейнічае комплекс па гадоўлі нецеляў на 2,5 тысячы галоў. Такіх памераў комплексаў і ферм у гаспадарцы будзе некалькі па кожнаму віду жывёлы. Уся жывёла ўтрымліваецца на подсціле. Гаспадарка будзе экалагічна чыстай. І фактычна, рэальна, а не дэкларацыйна самастойнай. Такой гаспадарцы ніхто не зможа вызначыць колькасць здачы ў рамонт трактароў і машын, або давесці план здачы кармоў на перапрацоўку на кормазавод у суседні Маладзечанскі раён за сотню кіламетраў, каб зноў везці іх назад у калгас.

— Якая ж тут гігантаманія? Разбірацца трэба, — не без папроку Касцючку кажа Лебядзюк, даўшы характарыстыку калгаса «Чырвоны сцяг».

Раман Якаўлевіч для павучання Касцючка кажа, што трэба адрозніваць канцэнтрацыю вытворчасці ад цэнтралізацыі кіравання. Як узор гэтага спалучэння ён і называе калгас «Чырвоны сцяг». Такі тып гаспадаркі супроцьстаіць гігантаманіі.

Пабывалі мы ў гэтай гаспадарцы. Пазнаёміліся з яе справамі і планамі. Гляк і Лебядзюк прызналіся мне, што яны глядзяць на гэту гаспадарку, як на выйсце, як на збаўленне ад той перспектывы, якая навісла над іхнім раёнам. Глядзяць на яе, як на адну з важных форм перабудовы сельскай гаспадаркі.

Такім чынам высветлілася праграма паездкі Гляка і Лебедзюка, планы іх дзейнасці.

●

Увесну гэтага года да мяне на кватэру нечакана завіталі Тамаш Макаравіч Гляк і Раман Якаўлевіч Лебядзюк. Распрануліся, разуліся ў парозе і зайшлі ў пакой у адных шкарпэтках, як магаметане ў мячэць.

Тамаш Макаравіч дастаў са сваёй палявой сумкі некалькі газет, разгарнуў іх на стале і спытаў у мяне:

— Чытаў?

У газетах былі надрукаваны матэрыялы рэспубліканскага партыйна-гаспадарчага актыву, які адбыўся ў кастрычніку 1987 года ў Брэсце, і матэрыялы занальнага семінара-нарады, які адбываўся таксама ў Брэсце ў пачатку красавіка гэтага года.

Рэспубліканскі партыйна-гаспадарчы актыў (1987 г.) ухваліў праграму будаўніцтва гіганцкіх жывёлагадоўчых комплексаў у Беларусі на перыяд да двухтысячнага года. У праграме прадугледжваецца пабудаваць у кожным раёне два комплексы па адкорме буйной рагатай жывёлы на 10 тысяч галоў кожны, адзін свінакомплекс на 54 тысячы галоў, а ў буйных раёнах адзін на 108 тысяч, або два па пяцьдзесят чатыры тысячы свіней.

Стварэнне гіганцкіх комплексаў апраўдваецца і тым, як гаварылася на брэсцкім партыйна-гаспадарчым актыве, што слабым калгасам і саўгасам не трэба будзе займацца адкормам жывёлы. Гэтым як бы робіцца палёгка ім. Але ж вядома спрадвеку, што адкорм жывёлы — самая прыбытковая галіна і ад яе, камандамі зверху пазбаўляюцца слабыя гаспадаркі. Можа, таму многія калгасы і саўгасы адстаюць у сваім развіцці, што ім не дазваляюць самім адкормліваць сваю уласную жывёлу?

Характэрны прыклад. Старшынёй калгаса «Савецкі пагранічнік» Гродзенскага раёна выбралі агранома Нону Іванаўну Валенцюкевіч. Калгас быў, як кажуць, ляжачы. Яму якраз і аказвалі тую «палёгку», што забіралі цялят на адкорм буйны комплекс. Нона Іванаўна ведала са свайго вопыту, што адкорм дае багатыя прыбыткі. Яна адмовілася прадаваць цялят комплексу, арганізавала адкорм у сваёй гаспадарцы. Выклікалі на дыван: «Хто дазволіў? Гэта беззаконне! Зрыў пастаўкі цялят комплексу!» Усё ж яна адстаяла права калгаса на адкорм. Цяпер справа гэта прыносіць калгасу штогод да паўтара мільёна рублёў прыбытку. Гаспадарка стала на ногі.

Гігантызм збядняе многія калгасы і саўгасы. Адкорм жывёлы не можа быць прывілеяй вузкай групы гаспадарак. Кожная гаспадарка мае права на адкорм сваёй жывёлы. Ні партыйна-гаспадарчы актыў, ні хто іншы, апроч саміх калгаснікаў, не можа вырашыць гэтай справы.

Мяне здзівіла, што прайшло больш года пасля рэспубліканскага партыйна-гаспадарчага актыву ў Брэсце, які вызначыў праграму будаўніцтва жывёлагадоўчых комплексаў, а сёння мае сябры раптам устрывожыліся.

Тамаш Макаравіч растлумачыў, што яны не паверылі ў ажыццяўленне рашэння партыйна-гаспадарчага актыву ў час перабудовы камандай зверху. Чакалі, што гэта зменіцца, адумаюцца, агледзяцца кіраўнікі, зразумеюць, што трэба вырашаць гэтыя задачы новымі метадамі. Ажно не. На занальным семінары-нарадзе сёлета праграма тая была пацверджана. Гэта іх і ўстрывожыла. Змен не чакай, не будзе.

— Дзядзька Томаш, не мае права нарада прымаць такое рашэнне. Недзе ў кабінетах распрацавалі праграму, склікалі актыў, абвясцілі, аднагалосна ўхвалілі... — супакойваў аптымістычны Лебядзюк Гляка.

— Пара ведаць, Раман, што законы ў нас можна і не выконваць, як, напрыклад, законы аб самастойным гаспадаранні калгасаў і саўгасаў, а вось каманду паспрабуй не выканай...

Лебядзюк дастаў са свайго «дыпламата» газету «Правда» і запрасіў нас паслухаць, што піша вядомы рускі пісьменнік-публіцыст Іван Васільеў пра нарады партыйна-гаспадарчага актыву ў артыкуле «Бумеранг». Ён працёр свае акуляры і стаў чытаць.

«...Хачу звярнуць увагу на адзін неафіцыйны (нідзе не ўзаконены) інстытут, так званы партыйна-гаспадарчы актыў», «...прыгледземся хоць бы бегла, што гэта такое і для чаго ён існуе?». «Перш за ўсё гэта кіраўнічая эліта». «Радавыя сюды не трапляюць, і ўжо адна гэта акалічнасць адразу дае ўяўленне аб характары ўлады. Уладу ажыццяўляе эліта, а не народ. Народу адведзена роля паслушніка і выканаўцы».

— На партыйна-гаспадарчых актывах не гучаць, як слушна заўважае аўтар, такія словы, — папярэджвае нашу ўвагу Раман Якаўлевіч: — «А што скажуць масы? А якой думкі народ?». «Тут падпрацоўваюць тактыку кіраўніцтва народам без удзелу народа, і таму ў гэтай тактыцы так яўна гучыць матыў прымушэння: абавязаць, прыняць меры, укараніць, абмежаваць, прыкласці намаганні, выканаць — усё ў загадным ладзе» («Правда», 2-X-88).

— *Здорава сказана!* — і Тамаш Макаравіч з асалодай пляснуў шырокай даланёй аб стол. — Праўда сказана! Горкая, але праўда!

— А чаго вам баяцца? Адмоўцеся ад аб'яднання. Сёння ў вашых руках казырныя карты, — не без папроку сказаў я сваім сябрам.

— Нам адмовіцца — не купіць. А раён як? А як рэспубліка? Ды гэта не толькі наша справа, але і твая! — узняўся з крэсла і стаў перада мной ва ўвесь свой магутны рост Гляк.

— Дзядзька Томаш, не трэба гэтак, — Раман Якаўлевіч узяў Гляка за плечы і пасадзіў на крэсла.

Я «злавіў» заслужаны папрок. Ёсць чаго хвалявацца і сапраўды нельга маўчаць. Раман Якаўлевіч малюе такую карціну недалёкай будучыні. У кожным раёне ў трох-чатырох пунктах — на комплексах-гігантах — будзе канцэнтравацца велізарная колькасць пагалоўя жывёлы. У гэтыя пункты будзе звозіцца з-за свету адпаведная колькасць кармоў. Да гэтага трэба дадаць перавозку з месца на месца соцень тысяч цялят. Уся гаспадарка ставіцца на калёсы. Побач з гігантаманіяй узнікае коламанія. Неразумнае скарыстанне транспарту ў нас нават сляпому кідаецца ў вочы. Гэта не толькі абвастрае, але і стварае дэфіцыт тавараў шырокага спажывання. Лебядзюк прыводзіць прыклад з пральным парашком. У магазінах яго няма, а дырэктары заводаў скардзяцца, што гэтай прадукцыяй завалены склады і цэхі, але няма транспарту, каб яе адправіць спажыўцам. Гігантызм, як у сельскай гаспадарцы, так і ў прамысловасці, карэжыць народную гаспадарку.

— Ну, а што будзе ў выніку стварэння такой колькасці комплексаў, якая вызначана нарадай, мы ведаем, бачылі. Землі адной часткі гаспадарак будуць спусташацца, другой — залівацца гноевымі сцёкамі. Калі посуд поўны, а ў яго льюць і льюць, непазбежна пацячэ цераз край, — заключае Раман Якаўлевіч.

У заключэнне ён прыводзіць словы першага сакратара Белгародскага абкома КПСС Аляксея Піліпавіча Панамарова з яго артыкула ў «Правде»: «хоць, вядома, зразумела і працверазенне ад павальнага будаўніцтва дарагіх комплексаў. Бо яны сапраўды пакуль не адчынілі дзверы ў краіну дастатку і ўсеагульнай сытасці» («Правда», 23-III-89).

Па ацэнцы спецыялістаў Дзяржкампрыроды адзін буйны жывёлагадоўчы комплекс дае за год столькі сцёкаў, колькі горад з трохсоттысячным

---

(Заканчэнне. Пачатак у нумарах «ЛіМа» за 14 і 21 ліпеня).

*Музыка*

# Голас Ганны



**По рашэнні ЮНЕСКА сёлетні год названы годам Ахматавай. Гэта вітаюць мільёны паклоннікаў творчасці вялікай паэтэсы. Сярод такіх гарачых і даўніх прыхільнікаў Ахматавай — салістка Беларускай дзяржаўнай філармоніі Ганна Стрыжакова, пра якую я і хачу расказаць...**

Першае знаёмства будучай спявачкі з паэзіяй Анны Ахматавай адбылося, калі Аня Стрыжакова вучылася ў 6-м класе. Ідэалагічная абстаноўка ў мастацтве і літаратуры ў тыя, пяцідзесятыя, гады была цяжкая. Лакіроўка рэчаіснасці, штучны пафас чалавечых памкненняў, падмена маральных прынцыпаў указаннямі чыноўнікаў, — усё гэта было характэрна для духоўнага жыцця краіны. Многія літаратары вымушаны былі «змяніць афарбоўку», каб утрымацца на хвалі часу. Ахматава была адна з нямногіх, хто ў тыя грозныя гады не пайшоў на здзелку са сваім сумленнем, застаўся верны сапраўдным чалавечым каштоўнасцям...

Што ж кранула сэрца маленькай школьніцы Ані ў творчасці вялікай паэтэсы Анны?

Дзяўчынку прывабіла душэўная цеплыня, інтымная лірычнасць, глыбокае чалавечае пачуццё, з радасцю і журбой, з любоўю і болем у сэрцы.

У адрозненне ад многіх сваіх аднагодкаў, якія цягнуліся да «прэстыжных» у той час прафесій, Ганна Стрыжакова не марыла стаць лётчыцай, вучоным, інжынерам... I не толькі таму, што гэта былі цяжкія для жанчыны прафесіі (работа артысткі, тым больш спявачкі, таксама патрабуе вялікай фізічнай і нервовай нагрузкі), але і таму, што паэзія, музыка, а потым і жывапіс, што напаўнялі яе духоўны свет, вельмі адпавядалі летуценнай рамантычнай натуры. «Чытаючы вершы Пушкіна, Цютчава, Ясеніна, Ахматавай, я заўсёды чула ў іх музыку», — нярэдка ўспамінае яна.

Пазней, калі ўжо зрабілася спявачкай, у яе рэпертуары знайшлі месца рамансы П. Чайкоўскага, М. Глінкі, А. Варламава, С. Рахманінава, напісаныя на вершы вялікіх рускіх паэтаў. I толькі творчасць Ахматавай заставалася па-за музыкай, хоць яе паэзія заўсёды вылучалася мяккай пластычнасцю і меладычнасцю.

Вельмі ўжо доўга ў паветры лунала здань сталінскага ідэолага Жданава.

Эпоха перабудовы, дэмакратызацыі, галоснасці стварыла ўмовы для адраджэння айчыннай гісторыі, культуры, вярнула многія незаслужана забытыя імёны, якія зрабіліся гордасцю нашай краіны. Паэзія Анны Ахматавай паўстала ва ўсёй шырыні яе незвычайнага таленту.

Адным з першых, хто адлюстраваў паэзію Ахматавай у музыцы, стаў старэйшы беларускі творца Анатоль Багатыроў, а параўнаўча нядаўна да яе вершаў звярнуўся малады кампазітар Уладзімір Кур'ян. Адметны перыяд пачаўся ў артыстычным жыцці Ганны Стрыжаковай. Упартая праца, бяссонныя ночы, хваляванні, а галоўнае — творчы пошук трактоўкі, выканаўчага стылю... Здаецца, нічога цяпер няма больш важнага для спявачкі, чым раскрыццё музычнага вобраза Анны Ахматавай.

Некаторыя калегі па філармоніі, блізкія знаёмыя звярталі яе ўвагу на тое, што сёння мода на лёгкую забаўляльную музыку, а паэзія Ахматавай ужо і надта камерная, і філасофская, што яна не дае магчымасці слухачу адпачыць на канцэрце, а наадварот, прымушае задумацца, суперажываць разам з выканаўцай...

Так, у наш час не саступіць з пазіцый сапраўднага мастацтва дзеля касавага поспеху — на гэта асмельваецца далёка не кожная артыстка. Ганна Стрыжакова засталася адданай свайму юнацкаму душэўнаму захапленню — чысціні і шчырасці пачуцця, вытанчанай лірычнасці, не штучнай, а сапраўднай драматургіі чалавечых эмоцый, г. зн. усяму, што складае сапраўднае ўзвышанае мастацтва.

I ўсё ж з'яўленне афішы з яе праграмай: «Анна Ахматова. Грезы любви», — выклікала хваляванне. Ці будуць гледачы, ці прывабіць праграма іхнюю цікавасць?

Анна Ахматава ў музыцы? Такога яшчэ не было... А хто напісаў музыку? Беларускія кампазітары: А. Багатыроў і У. Кур'ян...

Утульная зала Дома кіно, у якой адбыўся першы канцэрт-кампазіцыя «Мроі любві», была перапоўнена. Гучала паэзія, рамансы... Усе мы былі ў чароўным свеце вялікай і непаўторнай Ахматавай! Апладысменты, захапленне, вялікае мноства кветак, — усё гэта шчодра аддавалася і Анне Ахматавай, і Ганне Стрыжаковай.

Потым гучала «Чакона» І.-С. Баха, «Цені» К. Дэбюсі...

Падалося, што раманс «Начное наведванне» рана ці позна ўвойдзе ў скарбніцу класічнай спадчыны:

**Не на листопадовом**
**асфальте**
**Будешь долго ждать.**
**Мы с тобой в Адажио**
**Вивальди**
***Встретимся опять.***

Тут кампазітару У. Кур'яну ўдалося не толькі пранікнуць у глыбіню інтымных перажыванняў паэтэсы, але зразумець і музыкай перадаць яе душэўны стан.

Ганна ў творчасці Анны зразумела галоўнае — паэзію Ахматавай трэба не пераказваць слухачу, а арганічна ўвайсці ў яе, асэнсаваць, пражыць і зрабіць слухачоў сваімі аднадумцамі. Гэта выдатна ўдаецца Стрыжаковай, у гэтым галоўны сакрэт яе поспеху.

Поспех... Магчыма, цяпер можна, нарэшце, прыпыніцца, перавесці дыханне, супакоіцца?

Не!.. Творчы пошук, пошук і зноў пошук...

Цяпер ахматаўская праграма гучыць у Дзяржаўным мастацкім музеі БССР.

Уявіце сабе залу музея: на сценах жывапіс пачатку нашага стагоддзя, Ганна Стрыжакова пад акампанемент камернага аркестра «Калегіум» выконвае рамансы на вершы Анны Ахматавай. Гэта праграма згуртавала цудоўны калектыў сапраўдных прапагандыстаў высокага мастацтва: партыю фартэпіяна выконвала Таццяна Ішчанка, гучала скрыпка Міхаіла Гершовіча, вершы чытала майстар мастацкага слова Таццяна Куцэвіч.

Ганна Стрыжакова з тых, ад каго гледачы заўсёды чакаюць творчых эксперыментаў, знаходак новых мастацкіх выразных сродкаў. Ну, а як да гэтых пошукаў ставіцца філарманічнае кіраўніцтва?

Выступаць супраць новага ў эпоху перабудовы яно не рызыкне, але і зрабіць крок насустрач ініцыятыве ніхто не спяшаецца. Таму такія канцэрты-кампазіцыі пакуль яшчэ рэдкасць у паўтарамільённым Мінску, а ў іншых гарадах рэспублікі пра іх увогуле не ведаюць. А шкада...

Як цудоўна гучала б Ахматава ў зале камернай музыкі на Залатой горцы — пры свечках, пад акампанемент струннага ансамбля! Гэта магло б быць сапраўдным святам для аматараў мастацтва.

Паэзія і музыка... Дзе больш чалавечых пачуццяў, лірычнай пяшчоты, душэўнай цеплыні?

Слухаючы музыку і натхнёнае выкананне спявачкі Ганны, пранікаешся шчырасцю слова паэтэсы Анны:

**И музыка со мной**
**покой делила,**
**Сговорчивей нет в мире**
**никого.**

**Святлана РАМАНКО,**
**настаўніца музыкі.**

# ВЯРТАННЕ «АГАТКІ»

## З музычнага архіва

**Няўжо яна, партытура славутай «Агаткі» — оперы, створанай і пастаўленай у 1784 годзе ў Нясвіжы, знікла незваротна? Няўжо падзяліла лёс шматлікіх помнікаў нашай культуры, што сталі ахвярамі часу і чалавечага варварства? Не, быць не можа! Існуюць жа працы польскіх музыказнаўцаў Ч. Завейскага, Р. Гардо, Я. Проснака, А. Новак-Рамановіч і інш. з такім падрабязным аналізам твора, які магчыма зрабіць, толькі трымаючы ў руках яго партытуру. Зрэшты, навукоўцы маглі бачыць яе яшчэ да вайны, у час якой, паводле сцвярджэння аўтарытэтнага савецкага музыказнаўцы І. Бэлзы, опера загінула. Вядома толькі, што ў Нацыянальнай бібліятэцы Варшавы захавалася яе лібрэта, *упершыню* падрабязна пераказанае А. Мальдзісам у кнізе «Таямніцы старажытных сховішчаў». І ўсё ж...**

**Так думалася мне, калі ў час адпачынку збіралася ў Польшчу — на пошукі «Агаткі».**

**Напэўна, яе аўтары — вядомы гамбургскі кампазітар І. Д. Голянд, які працаваў пры нясвіжскім двары, і таленавіты літаратар і кампазітар-аматар Мацей Радзівіл — не маглі сабе ўявіць, што іх опера выкліча такую цікавасць у канцы XX стагоддзя. Ствараючы па заказе ўладара нясвіжскіх латыфундый К. Радзівіла «музычны падарунак» каралю, які наведаў горад у верасні 1784 г., яны, мабыць, нават не разлічвалі, што «Агатка» выйдзе за межы прыдворнага радзівілаўскага тэатра. Аднак пасля паспяховай прэм'еры яна набыла вялікую папулярнасць і ўжо ў 1785 г. была пастаўлена ў Варшаве, потым — у Любліне, Вільні, Львове, Познані і аж да канца XIX стагоддзя не сыходзіла са сцэн розных тэатраў. Але ці давядзецца зараз адшукаць і вярнуць на радзіму унікальны помнік музычнага мастацтва?**

***...І вось перада мною* рукапіс партытуры оперы — два вялізныя, пажоўклыя ад часу тамы, што, як аказалася, захаваліся цудам і знаходзяцца ў бібліятэцы Польскай акадэміі навук. Нават першапачатковае знаёмства з творам паказвае, што ён мае немалую мастацкую і навуковую каштоўнасць. Выяўляючы сваю прыналежнасць да еўрапейскага стылю, ён паўстае жывым пацвярджэннем далучанасці прафесійнага музычнага мастацтва Беларусі XVIII стагоддзя да гістарычна перспектыўных з'яў агульнаеўрапейскай культуры. Безумоўна, гэтая опера — набытак некалькіх народаў: створаная на тэрыторыі Беларусі, што ўваходзіла тады ў склад Рэчы Паспалітай, «Агатка» лічыцца першай польскай народнай аперэтай; у яе музыцы, на думку даследчыкаў, ёсць заходнееўрапейскія і славянскія мелодыі і рытмы. Таму надзвычай важна, каб слухалі і вывучалі яе ў розных краінах, працягваючы жыццё помніка ў сучаснасці і ўзбагачаючы свае *веды пра мінулае.***

**З дапамогай польскіх калег мне ўдалося атрымаць мікрафільм рукапісу, і зараз мара пра вяртанне «Агаткі» на беларускую сцэну можа стаць рэальнасцю. Я планую зрабіць клавір, а С. Клімковіч — пераклад лібрэта. Потым рукапіс будзе перададзены ў ДАВТ БССР, і праз нейкі час (можа, не так хутка, як ўяўляецца, бо падрыхтоўка трохактовай оперы — справа складаная) слухачы змогуць пачуць твор, што вярнуўся да нас праз 205 гадоў.**

**У ПНР ужо рыхтуецца да выдання партытура «Агаткі», апрацаваная вядомай даследчыцай доктарам музыкалогіі А. Новак-Рамановіч. Думаецца, неабходна надрукаваць оперу і ў нас, лепей за ўсё — у факсімільным варыянце. Каб у спрадвечным выглядзе ўвайшоў у творчую, навуковую і педагагічную практыку самы буйны з выяўленых на сённяшні дзень помнікаў музычнага мастацтва Беларусі XVIII стагоддзя.**

**Вольга ДАДЗІЕМАВА.**

# Джаз, Рыга, «Камерата»

**Упершыню беларускія выканаўцы трапілі ў праграму аднаго з найбольш прэстыжных джаз-фестываляў краіны — XIV Інтэрнацыянальнага фестывалю «Рытмы лета», канцэрты якога прайшлі ў Рызе ў чэрвені. Мінскі ансамбль «Камерата» *пад кіраўніцтвам* А. Шыкунова — адзіны, наколькі вядома, калектыў краіны, які спявае джаз а капэла, паказаў рыжанам абноўленую праграму. Яна складалася як з твораў класікі джазу, так і з апрацовак п'ес сучаснага, нават авангарднага рэпертуару. Арганічна ўвайшлі ў праграму «Камераты» і творы канцэртмайстра і піяніста А. Пыталева. Пра тое, што выступленне мінчан спадабалася, сведчыць факт запрашэння «Камераты» на канцэрты ў Латвійскую філармонію восенню гэтага года.**

**Поспех на фестывалі, аднак, не зняў многіх праблем, з якімі «Камерата» сустракаецца штодня. Група не мае апаратуры (а творчая манера «Камераты» заснавана на мікрафонных спевах), на фестывалі ў Рызе музыканты выступалі ў пазычаных касцюмах. Група, якая ўжо цяпер працуе практычна на прафесійным узроўні, знаходзіцца на становішчы гаротных аматараў. Шкада, што заклікі да ўздыму культуры харавых спеваў у рэспубліцы не ідуць далей лозунгаў. Больш як двухгадовае існаванне «Камераты» — яскравае сведчанне таго, што самабытны і перспектыўны калектыў можа спадзявацца адно на сябе.**

**«Рытмы лета-89» падарылі сустрэчу з многімі цікавымі выканаўцамі. Гэта былі квінтэт трубача-віртуоза са Швецыі А. Бергкранца, квартэт З. Намыслоўскага з Польшчы, маскоўскі дуэт Д. Крамер — А. Фішар, група «Архангельск», квінтэт Р. Раўбішкі — Г. Розенберга і трыо Э. Страўмэ з Рыгі, музыканты з Галандыі, ЗША. Разнастайная атрыбутыка, паказ джазавых фільмаў польскага рэжысёра А. Васілеўскага, джэм-сешн, якія штоноч адбываліся ў кафэ «Алегра»... Гэта ўсё — джаз-фестываль «Рытмы лета», на якім варта пабываць хоць аднойчы. Сёлета ён быў арганізаваны Рыжскім джаз-цэнтрам пры дапамозе фірм-спонсараў.**

**Ч. КАСІНЬШ.**

# У «КНІГАРНІ ПІСЬМЕННІКА»




«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АТ 00294 Індэкс 63856

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.